19 верасня 2014 | № 35 (404)

# Новы час

novychas.info

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

**Лепшым амбудсменам быў бы Бяляцкі**

стар. 6



# Зніклыя без вестак?

## Справы аб знікненні Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара і Анатоля Красоўскага будуць працягнутыя



Сяргей ПУЛЬША

Споўнілася 15 гадоў з моманту ўзбуджэння крымінальных справаў па «гучных знікненнях» у Беларусі.

Нагадаем, былы міністр унутраных спраў Юры Захаранка знік без вестак 7 мая 1999 года. 16 верасня 1999 года адзін з галоўных апанентаў Аляксандра Лукашэнкі, былы старшыня Цэнтрвыбаркама Віктар Ганчар і яго сябар, бізнесмен Анатоль Красоўскі, былі «выкрадзеныя невядомымі».

Крымінальныя справы па гэтых знікненнях распачалі адначасова — 17 верасня 1999 года. Следства ад самага пачатку ішло патаемна з-за палітычнага падтэксту гэтых знікненняў. Юры Захаранка на той момант займаўся стварэннем непадкантрольнага ўладам Саюза афіцэраў Беларусі і быў надзвычай папулярны ў міліцэйскім асяроддзі. Віктар Ганчар развіваў ідэю нелегітымнасці Аляксандра Лукашэнкі. Менавіта з ягонай падачы ў 1999 годзе прайшлі «альтэрнатыўныя выбары прэзідэнта Беларусі», у якіх паўдзельнічалі лідар БНФ Зянон Пазняк і былы прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір. Апроч крымінальнай справы ў дачыненні да Чыгіра, яны скончыліся нічым, але тым не менш, ідэя нелегітымнасці знаходжання Аляксандра Лукашэнкі на вяршыні ўлады была навідавоку.

Расследаванні знікненняў вялі і журналісты. У 2001 годзе ў іх распараджэнні апынуўся рапарт начальніка крымінальнай міліцыі МУС Беларусі Мікалая Лапаціка міністру ўнутраных спраў Уладзіміру Навумаву, у якім у «заказе знікненняў» палітыкаў і бізнесмена наўпрост абвінавачваўся тагачасны дзяржсакратар Савета бяспекі і асабісты сябар Аляксандра Лукашэнкі Віктар Шэйман. «Выканаўцам» быў названы спецназавец Дзмітрый Паўлічэнка. Апошні быў нават затрыманы следчымі Генпракуратуры.

Генеральнага пракурора Алега Бажэлку, які падпісаў пастанову аб арышце Паўлічэнкі, Аляксандр Лукашэнка адправіў у адстаўку, а на яго месца прызначыў падазраванага Віктара Шэймана. І следства заціхла. У 2003 годзе яно ўвогуле было прыпыненае — па афіцыйнай версіі, з-за таго, што «не атрымалася ўстанавіць асобы злачынцаў».

Але прыпыненне расследавання аказалася «злым жартам» для следчых. Родзічы зніклых былі прызнаныя пацярпелымі па справе і атрымалі доступ да матэрыялаў следства. І, адпаведна, распавялі журналістам шмат цікавага: пра допыты вышэйшых асобаў, пра вынікі экспертызаў, і гэтак далей. Бо калі следства па справе прыпыненае, то і таямніцы следства аніякай няма.

Потым следства аднавілі. Родныя зніклых рэгулярна, раз на тры месяцы, атрымлівалі паперкі пра падаўжэнне яго тэрмінаў, і не мелі магчымасці даведацца, што ж у ім новага: пачала дзейнічаць тая самая таямніца следства.

Зараз скончыўся 15-гадовы тэрмін даўніны, па якім асоба, абвінавачаная ў асабліва цяжкім злачынстве (а выкраданне людзей альбо забойства і ёсць такім злачынствам), можа быць прыцягнутая да крымінальнай адказнасці. Ці значыць гэта, што справы Ганчара, Красоўскага і Захаранкі будуць спыненыя, закрытыя і здадзеныя ў архіў?

Як лічыць былы следчы пракуратуры, прадстаўнік Уляны Захаранкі — маці Юрыя Захаранкі, Алег Волчак, гэта для ўладаў не вельмі добра. Бо, у выпадку закрыцця справаў і спісання іх у архіў, следчым даводзецца зноў азнаёміць пацярпелых з напрацаванымі следчымі матэрыяламі. «Здабыткам грамадскасці стане або поўнае бяздзеянне следчых, альбо тое, што ўлады ўсе гэтыя гады хаваюць. Так што «спісаць» справы ім нявыгадна. Працей рабіць выгляд, быццам следства вядзецца, і не даваць ніякай інфармацыі», — мяркуе ён.




**Калісьці мы даведаемся праўду!**

З іншага боку, па словах Волчака, закрыццё справаў адразу пазбавіць пацярпелых і іх прадстаўнікоў магчымасці пісаць хадайніцтва і скаргі, і наогул патрабаваць чаго б там ні было. «І яшчэ: па законе суд прызнае зніклага без вестак памерлым па заяве сваякоў праз тры гады пасля знікнення. Але калі мы з маці Юрыя Захаранкі звярнуліся ў суд, нам адмовілі, бо пакуль ідзе следства, нельга прызнаць чалавека памерлым. Закрыць справы — азначае прызнаць афіцыйна, што іх забілі. А пакуль — быццам бы і не было ніякіх забойстваў», — лічыць Волчак.

Той жа думкі прытрымліваецца і вядомы юрыст і праваабаронца Гары Паганяйла. «Сапраўды, ёсць артыкул 83 Крымінальнага кодэкса, які ўсталёўвае вызваленне ад крымінальнай адказнасці асобы за даўніною тэрміна. Але гэта тычыцца асобы. А ў справах па знікненні, пра якія мы кажам, гэтых асобаў няма. Няма таксама зніклага грамадзяніна альбо ягонага трупа. А мэтаю расследавання спраў якраз і з'яўляецца: высветліць абставіны знікнення, вінаватых у выкраданні і знікненні, знайсці зніклых альбо іхнія целы. Калі гэтага не зроблена — следства можа цягнуцца і цягнуцца», — лічыць Паганяйла.

Можна прыпыніць следства, кажа Паганяйла, але гэта не значыць, што справа пакладзеная ў архіў. «Справа ляжыць у следчага, па ёй праводзяцца мерапрыемствы аператыўнага характару. Калі атрымліваецца новая інфармацыя, якую трэба замацаваць следчым шляхам — справа ўзнаўляецца, праводзяцца следчыя дзеянні, і зноў можа быць прыпыненая», — кажа Паганяйла.

Акрамя таго, ёсць яшчэ і «пашуковая справа», якая павінна даць адказ на пытанне, што адбылося са зніклым. «Калі ён стаў ахвярай злачынства, павінна быць высветлена тое, якім чынам пазбавіліся ад трупа. Можа, кінулі ў скрыню з салянай кіслатой, яно растварылася. Але гэтыя кідок, гэтыя абставіны трэба ўстанавіць», — распавёў праваабаронца.

«Таму ў чыстым выглядзе, па гэтай справе даўніна тэрміна вызвалення ад крымінальнай адказнасці не прымяняецца», — упэўнены Паганяйла. А значыць, расследаванне «гучных знікненняў» будзе працягвацца да выніку. Калісьці мы даведаемся пра гэта праўду.

## ЛІЧБЫ ТЫДНЯ

### 17,3 працэнта

Інфляцыя ў 2014 годзе чакаецца на ўзроўні 17,3%, гаворыцца ў справаздачы інстытута, які працуе пры Міністэрстве эканомікі. Гэта лічба шмат каго зацікавіла, хаця б па той прычыне, што чыноўнікі самі раптам прызналіся ў сваіх правалах. Па першапачатковаму прагнозу тэмпаў інфляцыі называлася лічба 11% за год, але хутка выявілася, што яна не вытрымліваецца. У сувязі з гэтым было прынята рашэнне пра падвышэнне прагнознага параметру да 17,3%. Праўда, на думку шмат каго, лічба 17,3 узялася таксама невядома адкуль, паколькі для дасягнення гэтага паказчыку, па разліках Мінэканомікі, сярэднямесячны рост спажывецкіх коштаў не павінен перавышаць у другой палове года 1,04%. Між тым, дастаткова схадзіць у краму, каб зразумець, што ў коштаў свая арыфметыка. Прычым у міністэрстве самі прызнаюць, што за першую палову 2014 года спажывецкія кошты выраслі больш чым на 10%, то бок, штомесяц яны раслі значна больш, чым на 1,04 %. Аднак самая вялікая інтрыга, звязаная з рапартам Мінэканомікі, заключаецца ў тым, як паўплываюць на тэмпы інфляцыі будучыя прэзідэнцкія выбары? Як сведчыць гісторыя, звычайна дзяржава ў такі перыяд тармозіць рост коштаў. Аднак ёсць думка, што на гэты раз будзе інакш: з улікам таго, што напужаныя вайной ва Украіне беларусы і так лаяльныя рэжыму, падчас выбараў урад асабліва стрымліваць кошты не будзе.

### 100 працэнтаў

Праз тры гады беларусам давядзецца плаціць за камуналку 100%. Гэта прадугледжана Планам мер па збалансаваным развіцці эканомікі на 2014–2015 гады. Каб зразумець сутнасць рэформы, некаторыя абывацелі паспрабавалі вылічыць, колькі б у такім выпадку ім прыйшлося плаціць зараз?




Падлічыўшы, ледзь не схапіліся за галовы. Жыроўка за двухпакаёўку (без ацяплення!) пацягне амаль на паўтара мільёны. Такая астранамічная лічба адразу выклікала на форумах надзею на тое, што агучаны «План мер» — гэта піяр-прыкрыццё дзяжурнай аперацыі Саўміну па атрыманні пазыкі ад нейкага фонду, якому даюцца загадзя нерэалізоўныя абяцанкі. Калі меркаваць па каментарах на інтэрнэт-форумах, такая версія дазваляе людзям трошкі расслабіцца, аднак пры гэтым усе згодныя: тэндэнцыя на рост камуналкі будзе працягвацца. Зараз, па заявах чыноўнікаў ад ЖКГ, беларусы плацяць прыкладна 25–27 працэнтаў ад рэальнага памеру кошту камунальных паслуг. Але, што цікава, 100-працэнтная аплата спажывання вады ў Варшаве каштуе каля 1200 рублёў за кубаметр. А нашы 25% — каля 800 рублёў.

### 511 мільёнаў

За 6 месяцаў 2014 года беларусы атрымалі з-за мяжы праз асабістыя пераводы больш за 511 мільёнаў долараў. Пра гэта паведамляе Нацбанк. Статыстыка не толькі нагадала адну з самых вострых праблемаў беларускага грамадства — працоўную міграцыю і ўцечку мазгоў. Гэтая лічба падштурхнула шмат каго пацікавіцца дынамікай пераводаў з-за мяжы. І высветлілася, што праблема пагаршаецца з кожным годам. Для параўнання, за першае паўгоддзе 2013 года з-за мяжы даслалі 497,5 мільёна долараў, за першае паўгоддзе 2012-га — 398,9 мільёна. Пры гэтым, як кажуць спецыялісты, 511 мільёнаў — толькі маленькая частка паступленняў. Калі дасылаеш больш за 300 долараў, звесткі трапляюць у падатковую інспекцыю, і сума паступленняў абкладаецца падаткам. Каб не патрапіць пад падаткаабкладанне, народ возіць грошы праз мяжу наяўнымі. Таму значная частка грашовых сродкаў, што паступае з-за мяжы, не ўлічваецца ўрадам і Нацбанкам, што, праўда, магчыма, мае для іх псіхалагічна пазітыўнае значэнне — не дазваляе ацаніць сапраўдныя маштабы крызісу беларускай эканамічнай мадэлі, і таму спаць спакойна.

# Будаўніцтва на касцях

**«Галоўнае — інтарэсы Чыжа», — так можна пракаментаваць пісьмовыя адказы ўладаў на неаднаразовыя заклікі грамадзян Беларусі і замежжа з патрабаваннем спыніць злачынную будоўлю на касцях.**

Ні сведчанні відавочцаў тых падзеяў, ні патрабаванні правесці праверку, ні заклікі да законнага грамадскага абмеркавання дадзенай праблемы не змянілі намеры ўладаў дазволіць бізнесоўцу Чыжу заасфальтаваць месца пахавання загінуўшых ад рук фашысцкіх захопнікаў.

Адпаведныя адказы атрыманыя ад намесніка старшыні Валожынскага райвыканкама Ляшкевіча І.І., намесніка старшыні Мінаблвыканкама Няўмяржыцкага С.П., намесніка кіраўніка галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай (!) працы Мінаблвыканкама Маслава О.А, першага намесніка пракурора Мінскай вобласці Б.Б. Пятроўскага.

Усе чыноўнікі, як пад капірку, пішуць, што падставаў спыняць будоўлю няма, усё па законе і ў адпаведнасці са святочнымі мерапрыемствамі па святкаванні 70 год вызвалення Беларусі... У сваіх адказах чыноўнікі ветліва нагадваюць аб магчымасці скарыстацца правам падаваць у суд.

Галоўны аргумент у адказах уладаў на звароты людзей: грамадскае абмеркаванне ўжо праводзілася, і ніякіх заўваг і прапаноў ад грамадзян не паступала, таму будоўлі — быць! У газеце «Працоўная Слава», сапраўды, была размешчана аб'ява аб правядзенні грамадскіх слуханняў. І размясціў яе спадар Ляшкевіч.

У аб'яве будучую забудову ён назваў «Проект застройки жилого квартала в г. Воложин», але месца, дзе будзе пабудаваны новы жылы квартал, ён пазначыць забыў. З аб'явы Ляшкевіча немагчыма зразумець, адносна якога канкрэтна будаўнічага аб'екту адбудзецца грамадскае абмеркаванне. Таму яшчэ ў лютым Валожынскі райвыканкам незаўважна правеў «ціхія слуханні», а відавочныя парушэнні, у тым ліку неналежнае інфармаванне грамадства, не турбуюць цяпер нават пракуратуру. Усё ж такі Чыж будуе — не абы хто... Хай і на касцях ахвяраў Халакосту.

Трэба падкрэсліць, што па яўрэйскіх законах месца, дзе пахаваныя ахвяры Халакосту, лічацца святым. На гэтым месцы не тое што будаваць нельга, яго нельга выкарыстоўваць ні ў якіх іншых мэтах, акрамя ўшанавання памяці загінулых. І нават перазахаваць забітых можна толькі згодна са строгімі рэлігійнымі правіламі.

«Ну і што? У нас паўсюль косці пад нагамі», — гэтак адказалі ў Валожынскім райвыканкаме каардынатару аргкамітэта па стварэнні партыі БХД Георгію Каржанеўскаму, які ўжо некалькі гадоў змагаецца супраць будаўніцтва жылых дамоў на валожынскім стадыёне і незаконнага будаўніцтва свінакомплекса ў абыход экалагічных нормаў у Валожынскім раёне. БХД будзе дамагацца паўторнага правядзення грамадскіх слуханняў па дадзеных праблемах, у тым ліку і праз суд.

**Прэсавая служба БХД**

# Прафсаюзы нікога не бароняць

Марат ГАРАВЫ

**15 верасня ў Мінску на сустрэчы з генеральным сакратаром Міжнароднай канфедэрацыі прафсаюзаў Шаран Бароў, якая з 14 па 16 верасня знаходзіцца з візітам у Беларусі, абмяркоўваліся праблемы сацыяльнага дыялогу, выканання правоў працоўных і прафсаюзаў у краіне.**

У сустрэчы прыняла ўдзел і былая бухгалтарка Бабруйскага заводу трактарных дэталяў і агрэгатаў, а зараз пенсіянерка з Бабруйску Любоў Санкевіч.

Санкевіч адпрацавала на гэтым прадпрыемстве 12 гадоў, і ў 2001 годзе была звольненая «за сістэматычнае невыкананне без уважлівых прычынаў абавязкаў, ускладзеных на яе працоўнай дамовай». Трэба мець на ўвазе, што 11 з паловай гадоў у Любові Санкевіч былі выключна падзякі за добрасумленную працу. Прычэпкі да яе пачаліся са зменай кіраўніцтва прадпрыемства і мелі месца ў апошнія пяць месяцаў працы на заводзе.

Ужо 13 гадоў жанчына спрабуе ўзнавіць свае парушаныя правы, бо лічыць звальненне з прадпрыемства неабгрунтаваным і незаконным. Спадарыня Санкевіч была сябрам Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, якая адмовілася яе патрымаць у канфлікце з адміністрацыяй заводу. Суд Бабруйскага раёна і горада Бабруйска таксама стаў на бок кіраўніцтва прадпрыемства. Аднак пазіцыю спадарыні Санкевіч падтрымала Генеральная пракуратура, якая вынесла два пратэсты на рашэнне суду першай інстанцыі, адхіленых Вярхоўным судом Беларусі.

У сваім выступе на сустрэчы са спадарыняй Шаран Бароў Любоў Санкевіч распавяла, што ў свой час паверыла кіраўніку дзяржавы Аляксандру Лукашэнку, які заклікаў грамадзян Беларусі беражліва ставіцца да дзяржаўнай маёмасці і змагацца з карупцыяй. «Вось чаму я пачала выкрываць недахопы на прадпрыемстве, і менавіта за гэта была звольненая з працы. Але мой прафсаюз мяне не падтрымаў. І зараз шкадую, што ў свой час не ўступіла ў незалежнае прафсаюзнае аб'яднанне», — заявіла Любоў Санкевіч.

На сустрэчы з Шаран Бароў прысутнічалі дыпламаты, а таксама кіраўнікі і актывісты тых прафсаюзных аб'яднанняў, што ўваходзяць у склад Беларускага кангрэсу дэмакратычных прафсаюзаў.

# Канфіскавалі кампутары

**16 верасня сем міліцыянтаў пад кіраўніцтвам маёра міліцыі Уладзіміра Пугачова ўварваліся ў кватэру незалежнага журналіста з Магілёва Алеся Буракова (старэйшага).**

Міліцыянты схітравалі і падставілі пад дзверы нейкую жанчыну, якая прадставілася супрацоўніцай ЖЭК. Як толькі Алесь Буракоў адчыніў дзверы, яго ледзь не збілі з ног міліцыянты.

Яны правялі агляд кватэры. Усе свае дзеянні яны фіксавалі на відэакамеру. Сказалі, што Буракоў падазраецца ў парушэнні закона «Аб СМІ», бо нібыта супрацоўнічае з нямецкім радыё «Deutsche Welle» і не мае на тое адпаведнай акрэдытацыі. У якасці доказаў міліцыянты спасылаліся на публікацыі, якія былі размешчаны на сайце радыё і былі падпісаныя Алесем Бураковым.

Пасля таго, як кватэра журналіста была агледжаная, міліцыянты паехалі рабіць агляд кватэры бацькоў Алеся, дзе таксама забралі кампутары. У выніку ў журналіста забралі два стацыянарных кампутары і два ноўтбукі на экспертызу. Абяцалі вярнуць кампутары праз 1–2 тыдні, як толькі праверка кампутараў будзе скончана.

Алесь Буракоў адзначае, што ў яго на руках толькі пратакол аб аглядзе месца адміністрацыйнага правапарушэння, які яму выдалі міліцыянты. Пратакола аб канфіскацыі кампутараў у яго на руках няма.

Для далейшых разбіральніцтваў незалежны журналіст выкліканы ў Ленінскі РАУС.

Трэба адзначыць, што нядаўна Буракову ўжо выносілі афіцыйнае папярэджанне за працу на замежнае СМІ без акрэдытацыі. Тады гаворка ішла пра тэлеканал «Белсат».

**spring96.org**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Фінансы пяюць рамансы

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Тэма грошай — заўсёды надзённая. Аказваецца, рана мы ўзрадаваліся і «харчоваму Кландайку» — эмбарга Расіі на заходнія прадукты, і патрабаванням Мясніковіча цалкам разлічыцца па замежных пазыках. Не такая ўжо гэта простая справа.**




Што тычыцца «харчовага Кландайку», то проста так нічога не робіцца. Расіяне таксама не спяць у шапку, і «Рассельгаснагляд» вельмі пільна сочыць за «сінявокай». Напачатку тыдня гэтая структура завярнула ў Беларусь 27 тон кантрабанднай садавіны і гародніны. Расійскае ведамства сцвярджае, што Мінскі філіял РУП «Белтаможсервіс» паспрабаваў адправіць у Расію 27 тон гародніны і садавіны з Захаду па падробленых дакументах. «Белтаможсервіс», па словах расіянаў, спрабаваў выдаць галандскую гародніну, у дачыненні да якой уведзеныя санкцыі, за ізраільскую, у дачыненні да якой санкцый няма.

Гэта не першы выпадак з «Белтаможсервісам», запэўнівае «Рассельгаснагляд». На мінулым тыдні тая ж фірма паспрабавала адправіць у Расію больш за 18 тон рознай садавіны, груш, нектарынаў і персікаў па несапраўдным фітасанітарным сертыфікаце.

Дрэнна, калі з-за аднаго «Белтаможсервіса» будуць цярпець і іншыя беларускія пастаўшчыкі, да якіх з'явіцца пільная ўвага суседскіх фітасанітараў.

А вось мары Міхаіла Мясніковіча пра датэрміновае пагашэнне крэдытаў у пыл разбеяў родны Нацыянальны банк, агучыўшы новую статыстыку нашага знешняга доўгу. Згодна з лічбамі, толькі абслугоўванне валавога знешняга доўгу Беларусі ў першым паўгоддзі 2014 года абышлося краіне ў амаль у пяць з паловай мільярдаў долараў ($5 458,7 млн.), што складае 15,8% ВУП або 24,8% экспарту тавараў і паслуг. Гэта ў той час, як за аналагічны перыяд 2013 года на названыя мэты было выдаткавана $2 941,7 млн.

Плацяжы па асноўным доўгу склалі $ 4 740,4 млн., плацяжы па працэнтах — $718,3 млн.

Паводле дадзеных Нацбанка, нейкім дзіўным чынам, у мерах «жэстачайшай эканоміі», валавы знешні доўг краіны за паўгода не толькі не зменшыўся, але і вырас. На 1 ліпеня ён складае $40 609,1 млн. (55,5% ВУП). То бок, кожны грамадзянін Беларусі павінен нейкаму знешняму фінансісту 4 тысячы 288 долараў і 60 цэнтаў ЗША, падлічыў Нацбанк. Гэта кожнаму чалавеку (і немаўляці, і пенсіянеру), каб разлічыцца са знешнімі пазыкамі, трэба працаваць на зарплаце ў 500 долараў аж 9 месяцаў! Вось такі «крэдытны эканамічны цуд».

Але і гэта яшчэ не ўсё. Па тых жа лічбах Нацбанка, валютныя абавязацельствы дзяржорганаў Беларусі тэрмінам пагашэння да 1 месяца на 1 верасня 2014 года складаюць $ 2 280,9 млн. То бок, бліжэйшым месяцам нам трэба будзе выдаткаваць больш двух мільярдаў долараў!

Агулам жа гадавыя (у перыяд з 1 верасня 2014 г. па 1 верасня 2015 г.) валютныя абавязальніцтвы ўрада і Нацбанка Беларусі па пазыках і каштоўных паперах складаюць $5 950,8 млн. — амаль шэсць мільярдаў долараў. Пры гэтым на 1 верасня ўсе актывы Беларусі ў замежнай валюце склалі $7265,4 млн.

Няцяжка падлічыць, што, калі б мы, па Мясніковічу, выплацілі зараз хаця б крэдыты аднаго года наперад, то да гэтага аднаго Новага года мы б падышлі, мякка кажучы, з голым торсам. У нас бы засталося ў засеках толькі мільярд і трыста мільёнаў долараў. На сподняе краіне б яшчэ хапіла, а вось прыкрыць торс — ужо не.

Але і тут нам дапаможа Расія. Падобна, мы ўрэшце дачакаліся таго, што Пуцін абяцаў Лукашэнку зрабіць на працягу трох тыдняў яшчэ напрыканцы красавіка — не прайшло і паўгода. Прэм'ер-міністр Расійскай Федэрацыі Дзмітрый Мядзведзеў сваім распараджэннем ухваліў праект міжурадавага пагаднення пра тое, што Расія прадаставіць Беларусі крэдыт на суму 1,55 млрд. долараў.

Згодна з дакументам, крэдыт прадастаўляецца на 15 гадоў з ільготным перыядам больш за 4 гады ў расійскіх рублях на працягу 15 дзён пасля падпісання міжурадавага пагаднення. Беларускі бок пагашае выкарыстаны крэдыт шляхам пераводу расійскаму боку сродкаў у расійскіх рублях 20-цю роўнымі паўгадавымі часткамі 15 студзеня і 15 ліпеня кожнага года, прычым першы плацёж будзе ажыццёўлены 15 студзеня 2019 года.

Але, як зазначаюць эксперты, гэты крэдыт, хутчэй за ўсё, нам трэба будзе вярнуць адразу ж і ў поўным памеры. Справа ў тым, што напрыканцы 2013 і ў чэрвені 2014 года расійскі банк ВТБ пракрэдытаваў Беларусь на $450 млн. і $1,5 млрд. долараў адпаведна. Крэдыт ВТБ быў «брыдж-крэдытам», то бок «хуткім крэдытам «да заробку» — на тэрмін да 6 месяцаў. Транш за 2013 год мы, падаецца, ужо выплацілі, так што $1,5 млрд. ад Расіі адразу ж сыдуць расійскаму ж банку ВТБ. Які, дарэчы, трапіў пад еўрапейскія і амерыканскія санкцыі з-за Украіны, і таму мае сур'ёзныя праблемы і знаходзіцца ў вельмі непрыемным становішчы.

Падаецца, што адзіны чалавек ва ўрадзе, які заклапочаны не толькі выдаткамі Беларусі, але і прыбыткамі — гэта міністр замежных спраў Уладзімір Макей. Хаця продаж беларускай прадукцыі — гэта, будзем казаць шчыра, не яго абавязак. Але пасля ягонага візіту ў Польшчу ў польскім горадзе Плоньск (Мазавецкае ваяводства) адкрылася зборачная вытворчасць грузавых аўтамабіляў з машынакамплектаў вытворчасці ААТ «МАЗ».

Як паведаміла (як заўсёды, з затрымкай) пасольства Беларусі ў Польшчы, цырымонія адкрыцця вытворчасці адбылася 12 верасня, калі з канвеера сышоў першы грузавік, прызначаны для польскага рынку. На прадпрыемстве плануюць збіраць да 500 адзінак грузавой і пасажырскай тэхнікі ў год. Акрамя таго, у планах супрацоўніцтва ў галіне пастаўкі камплектуючых і запасных частак, павелічэнне долі лакалізацыі ў працэсе зборкі тэхнікі на тэрыторыі Польшчы і Еўрапейскага саюза.

А яшчэ раней Макей падпісаў пагадненне пра стварэнне ў Нігерыі зборачнага прадпрыемства беларускіх трактароў. Паводле слоў Макея, гэты цэх па зборцы трактароў «Беларусь» павінен запрацаваць у канцы года. А таксама Макей заявіў, што Беларусь можа і экспартаваць у Нігерыю грузавую тэхніку МАЗ, ды ўвогуле далучыцца да рэалізацыі праграмы нігерыйскага ўрада ў сферы развіцця прамысловасці.

Калі Макей сыдзе з пасады старшыні МЗС, без працы ён не застанецца. Такога хваткага менеджэра па продажах адарвуць з рукамі ў любой фірме.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Дуня Міятавіч



**Прадстаўніца Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе (АБСЕ) па пытаннях свабоды СМІ 15–16 верасня наведала Беларусь з двухдзённым афіцыйным візітам.**

15 верасня Дуня Міятавіч сустрэлася з міністрам замежных спраў Уладзімірам Макеем і міністрам інфармацыі Ліліяй Ананіч, а таксама прыняла ўдзел у семінары па ўзаемадзеянні органаў правапарадку і СМІ ў Беларусі.

Затрыманні журналістаў — гэта праблема, якая ў Беларусі выяўляецца асабліва моцна, падкрэсліла Міятавіч у інтэрв'ю Naviny.by. «Адбываецца вельмі шмат кароткатэрміновых затрыманняў журналістаў. Хоць я павінна адзначыць, што колькасць затрыманняў значна зменшылася. Напрыклад, у 2011 годзе зафіксавана больш за 150 выпадкаў, а ў цяперашнім — 21. І хоць змяншэнне выпадкаў ніяк не апраўдвае і не выбачае затрыманні, але відаць, што ўлады спрабуюць нешта зрабіць», — сказала Міятавіч.

Улада паказала, што яна спрабуе зрабіць. 16 верасня ў Мінску былі затрыманыя відэааператар інфармацыйнай кампаніі БелаПАН Сяргей Сацюк, яго калега Аляксандр Баразенка і журналістка Наталля Валакіда. А ў Магілёве міліцыянты ўварваліся ў кватэру журналіста Алеся Буракова, абвінавацінаўшы яго ў парушэнні закона аб СМІ: нібыта ён працуе на нямецкую радыёстанцыю «Deutsche Welle», не маючы пры гэтым акрэдытацыі.

## Андрэй Цянюта



**Сустаршыні зарэгістраванай у Чэхіі моладзевай міжнароднай арганізацыі «Малады фронт» прапанавалі аднавіцца ва ўніверсітэце.**

Гэтая прапанова прагучала на папярэдніх судовых слуханнях па яго іску аб незаконным адлічэнні з Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Скарыны.

Цянюта, якога адлічылі з ВНУ 20 мая за неаднаразовыя прыцягненні да адміністрацыйнай адказнасці за палітычную дзейнасць, просіць суд прызнаць загад аб адлічэнні непраўамерным і аднавіць яго ва ўніверсітэце.

16 верасня ў судзе выступіў начальнік юрыдычнага аддзела ГДУ Валерый Недаступ. Ён адзначыў, што адлічэнне было законным. «Але ніякіх праблем па аднаўленні няма — месцаў у ВНУ звышдастаткова. Або па рашэнні суда, або самастойна вы маеце права на аднаўленне пры наяўнасці месцаў. Сітуацыя такая, што месцы ёсць. Можа, гэта і будзе рашэннем праблемы?» — прапанаваў Недаступ.

Начальнік юрыдычнага аддзела абяцаў даведацца ў рэктарацэ пра тое, калі можна звярнуцца ў ВНУ з заявай аб аднаўленні ў ліку студэнтаў.

«Пазіцыя ўніверсітэта досыць ясна выказана юрыстам: адлічэнне — не ініцыятыва ўніверсітэта, ВНУ не зацікаўлена ў адлічэннях, тым больш завочнікаў-платнікаў. Хутчэй за ўсё, гэта ініцыятыва тых органаў, якія ў нас адказваюць за кантроль над палітычнымі працэсамі, а ўніверсітэт апынуўся ў закладніках сітуацыі», — лічыць выкладчык ГДУ, праваабаронца Віктар Адзіночанка.



## Дзмітрый Валент

**Беларускі баец муай-тай, выступаючы на турніры Topking World Series у вышыванцы, разграміў зорнага тайца Панома на вачах усёй планеты.**

Турнір праходзіў у Мінску, і трансляваўся на 170 краін свету. Было заяўлена, што толькі ў Кітаі аўдыторыя тэлегледачоў склала каля 300 мільёнаў чалавек. У якасці гасцей і секундантаў на байцоўскім шоў прысутнічалі Віталь Гуркоў і знакаміты італьянец Джорджыа Петрасян. Судзілі бай замежныя суддзі. Супернікаў беларусам прывезлі надзвычай моцных — чэмпіёнаў самага прэстыжнага тайскага стадыёна Люмпіні.

Дзмітрый Валент змагаўся супраць тайца Панома. У першым раўндзе беларус наткнуўся на сустрэчны локаць і атрымаў цяжкае рассячэнне. У любы момант дуэль маглі спыніць. Але ў другім раўндзе Валент феерычна выключыў Панома левым сустрэчным.

**13 верасня памёр Пётр Марцаў, бізнэсовец і выдавец, без газет якога немагчыма ўявіць жыццё краіны, пачынаючы з сярэдзіны 1990-х. Яму было толькі 52 гады. Пятра Марцава ўзгадвае Сяргей Шапран, які доўгі час працаваў у яго газетах «Имя» і «Белорусская деловая газета».**

# Капітан непераможных караблёў



Сяргей ШАПРАН

З Пецем Марцавым... — хай не прагучыць гэта фамільярна, але Марцава я ведаў амаль трыццаць гадоў: у 1985-м паступіў на філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, а Марцаў, толькі скончыўшы філфак, быў мастацкім кіраўніком нашага Студэнцкага тэатра эстрадных мініяцюр ці, прасцей кажучы, СТЭМа. Марк Мерман пісаў песні для спектакляў, а іх пастаноўшчыкам быў Пеця. Самы яркі ўспамін тых гадоў — Леанід Шырын і Пётр Марцаў спяваюць «Саракавыя-ракавыя» на верш Самойлава: «Сороковые-роковые... А мы такие молодые»... Дык вось, з Пецем Марцавым мы размаўлялі «пад запіс» толькі аднойчы. Гутарылі пра канкрэтную гісторыю з асабіста-дзяржаўнага жыцця Марцава.

Лета 1999 года. «БДГ» друкуе праграму фарміравання залатавалютных рэзерваў Беларусі, якая значылася пад грыфам «абсалютна сакрэтна». Інфармацыйнай нагодай стаў нечаканы арышт Эдуарда Эйдзіна, кіраўніка групы, што і распрацавала праграму. Паводле публікацыі, людзі, якія ажыццяўлялі здзелкі на тэрыторыі Беларусі, Расіі і Казахстана, рабілі іх з парушэннем заканадаўства ўсіх трох дзяржаў. Эдуард Эйдзін быў арыштаваны з той прычыны, што пэўныя асобы пажадалі пераключыць гэтыя схемы на сябе, выключыўшы тых, хто займаўся праграмай: не паставіўшы ў час золата ў Беларусь, яны далі зразумець, што яно і не будзе дастаўлена, пакуль Эйдзін з таварышамі будуць мець дачыненне да падобных спраў. «БДГ», апублікаваўшы гэтую інфармацыю, мусіць, самым сур'ёзным чынам нашкодзіла закрыццю здзелак.

Афіцыйная рэакцыя на публікацыю ў «БДГ» была надзвычай эмацыйная: падчас вузкай нарады з кіраўнікамі сілавых структур быў дадзены загад ліквідаваць галоўнага рэдактара «БДГ». Праўда, аднаму з тых, хто атрымаў той загад, ён здаўся, мякка кажучы, незаконным. У выніку гэты чалавек знайшоў магчымасць папярэдзіць Марцава.

— Я разумеў, што гэта эмацыйнай рашэнне, — распавядаў Пётр. — Аднак я не мог дакладна ведаць, праўда гэта ці ўсё ж такі правакацыя. Аднак у памяці былі вясновыя падзеі таго года: раптоўная смерць аднаго з лідараў апазіцыі Генадзя Карпенкі, таямнічае знікненне Юрыя Захаранкі... Я прыйшоў да высновы, што, магчыма, варта паставіцца да гэтага папярэджання больш сур'ёзна, чым звычайна, паколькі, мяркую, любы галоўны рэдактар незалежнай беларускай газеты можа пахваліцца, што некалькі разоў на год яму пагражаюць. На жаль, гэта норма для нашай прафесіі. Я падумаў, што калі гэта ўсё сур'ёзна, дык мяне знойдуць дзе заўгодна. І прыняў рашэнне... усіх падмануць і не выязджаць з краіны. Але зрабіў выгляд, што з'язджаю. Дзеля гэтага на працягу двух дзён адкрыў візу ў Германію, выпісаў камандзіроўку і нават купіў квіток на самалёт па маршруце Масква — Гамбург...

На працягу гэтых двух дзён Марцаў зняў кватэру ў Мінску, падключыўся да інтэрнэту і паставіў кампутар. І трэба сказаць, падмануць атрымалася: яго ніхто не шукаў. Праўда, адзін раз усё ж знайшлі. Абсалютна выпадкова. Справа ў тым, што ў той жа час ішла размова пра тое, што ў турме можа апынуцца рэдактар газеты «Имя» Ірына Халіп, і Марцаў сустрэўся з ёй, каб паведаміць пра тое і паспрабаваць пераканаць з'ехаць з краіны. Менавіта ў той момант яго і засекла знешняя «наружка», якая вяла Халіп, — абодвух сфатаграфавалі. Фотаздымкі леглі на стол таго, хто і аддаў загад пра ліквідацыю. Рэакцыя была зноў эмацыйнай: «Як жа вы сцвярджаеце, што ён з'ехаў, калі ён тут?!» Зрэшты, яго супакоілі, пераканаўшы, што Марцаў прыязджаў у Мінск толькі на адзін дзень...

— На гэтай кватэры я пражыў паўтара месяца, — працягваў ён аповед. — І падыхаць паветрам выходзіў толькі па начах. Прадукты прыносіў мой сябар, зносіны з якімі я не падтрымліваў ужо гадоў дзесяць, таму было малаверагодна, што нехта мог сачыць за ім. Наогул, адчуванні не з прыемных... Але іншая справа, што гэтая гісторыя ў чарговы раз прадэманстравала, што кіраўнікам дзяржаў і вышэйшым службовым асобам не так ужо прыемна займацца падобнымі справамі, і ёсць людзі, якія не схільны выконваць падобныя загады. Аднак калі яны не могуць адкрыта запярэчыць, дык тады, як мінімум, здольныя хаця б сабатаваць іх. Апроч таго, я разумеў, што загад у адносінах да мяне будзе рана ці позна адменены. Мабыць, так і адбылося, бо аднойчы атрымаў па электроннай пошце ліст, дзе паведамлялася, што я магу з'явіцца. У выніку я «выйшаў на волю». І роўна праз дзесяць дзён знік Віктар Ганчар.

Праўда, ужо пасля выхаду Марцава на волю пачалася шырокамаштабная праверка паўсотні фірм, якія працавалі з «БДГ» і рэкламнымі агенцтвамі Марцава.

— Прафесія журналіста ў Беларусі — прафесія, безумоўна, небяспечная, — рэзюмаваў ён тады. — Факты кажуць самі за сябе. Прычым факты, якія не маюць дачынення асабіста да мяне. Яна заўсёды небяспечная для жыцця ў тым выпадку, калі журналіст апаніруе ўладзе, калі ён даследуе факты карупцыі і крадзяжу сярод вышэйшага чыноўніцтва. Журналісту ў гэтым выпадку пагражае крымінальная справа ці проста збіццё. Пэўны час мы мелі справу з абсалютнымі адмарозкамі (і не істотна, якую пасаду ў дзяржаўнай іерархіі займаў гэты адмарозак), для якіх загадаць забіць чалавека нічога не каштавала. Гэтыя людзі не мелі ніякіх маральных бар'ераў. І, на жаль, вельмі многа людзей,

**Ці скончылася з сыходам Пятра Марцава яго эпоха? Эпоха завяршаецца, калі ў настаўніка няма паслядоўнікаў. У Марцава былі і засталіся журналісты «Имя» і «БДГ», такім чынам, яго эпоха працягваецца**

якія здольныя за грошы такі загад выканаць. Аднак, мяркую, Беларусь у гэтым сэнсе — краіна, на жаль, не ўнікальная. Проста сітуацыя тут адрозніваецца тым, што журналіст, які працуе ў недзяржаўных СМІ, ужо з прычыны гэтых абставінаў абавязкова будзе знаходзіцца пад пільным наглядам улады. Мяркую, найлепшая абарона ў гэтым сэнсе — гэта інфармацыя, якой ты валодаеш і якую своечасова атрымліваеш...

Але колькі падобных гісторый адбылося ў жыцці Марцава? Адна? Дзве? Тузін? Аднаму Богу вядома. Ці яшчэ каму?..

Увогуле, Пеця быў выдатным апавядальнікам. Гэта таксама адзін з яго шматлікіх талентаў. Ужо не пад запіс ён расказваў, як у гасцініцы «Мінск» яго спрабаваў завербаваць супрацоўнік КДБ, якога Марцаў пасля некалькіх сустрэч «перавербаваў», — усё ж ён валодаў дзіўным талентам пераконваць (да слова, праз шмат гадоў на пытанне аднаго з гэбістаў: «Колькі нашых у цябе працуе?» рэдактар «БДГ» іранічна адказаў: «А колькі прыслалі, столькі і працуе»). Ці як падлеткамі Пеця з сябрукамі павярнулі вежу ў танка, што стаіць на пастаменце каля мінскага Дома афіцэраў, у бок будынка ЦК КПБ, пасля чаго пачаўся, вядома, вэрхал, і тую вежу прываралі ўжо навечна. Ці як быў перакладчыкам у варагуючых афрыканскіх плямёнаў. Ці пра інтэрв'ю з Уладзімірам Караткевічам, якое ў бібліяграфіі Уладзіміра Сямёнавіча не згадваецца. Ці, нарэшце, пра тое, як напярэдадні чарговых прэзідэнцкіх выбараў яго запрасіла да сябе кіраўнік прэзідэнцкай адміністрацыі Пяткевіч (хто сёння прыгадвае яе? Усе гэтыя чыноўнікі як прыходзілі, так і сыходзілі, змяняючы адзін аднаго ў бясконцай чахардзе, а Марцаў дваццаць гадоў быў і заставаўся такі адзін) і патрабавала адрадзіць «БДГ», таму што, бачыце, чытаць няма чаго. Гэта было б вельмі падобна на анекдот, калі б гісторыю гэтую, пасмейваючыся, не расказаў сам Марцаў.

А яшчэ з ім было надзейна. І гэта таксама адзін з яго талентаў. І нават калі патаналі нашы караблі — «Имя» і «Белорусская деловая газета», — мы да апошняга верылі ў нашага капітана Пятра Марцава. З ім было надзейна да апошняга. І не толькі таму, што мы ў яго верылі, але і таму, што ён сапраўды быў адважным капітанам. Хоць колькі яму было, калі ён толькі запусціў у плаванне свае караблі? Трыццаць з невялікім? А калі, не жадаючы здавацца, сам жа іх і патапіў, — крыху больш за сорак... Марцаў не на словах — ён прыкладам сваім вучыў бясстрашнасці.

Ды і газеты, выдаваныя Марцавым, былі не проста газетамі. Што роўнага ім было раней? Што ёсць сёння?.. Праз «Имя» і «Белорусскую деловую газету» прайшло каля трохсот журналістаў. Марцаўскія выданні былі сапраўднымі журналісцкімі ўніверсітэтамі. Не думаю, што будзе вялікім перабольшаннем сказаць, што яны, свядома ці не, але вызначылі твар сучаснай беларускай журналістыкі. Больш за тое, яны былі сапраўднай чацвёртай уладай — газеты Марцава маглі любіць ці ненавідзець, але іх усё роўна — чыталі. Чыталі ўсе, пачынаючы ад простых чытачоў і заканчваючы няпростай гэтай уладай...

Ці скончылася з сыходам Пятра Марцава яго эпоха? Звычайна эпоха завяршаецца, калі ў настаўніка няма паслядоўнікаў. У Марцава былі журналісты «Имя» і «БДГ», былі і засталіся, такім чынам, яго эпоха працягваецца. І ў гэтым яшчэ адзін бясспрэчны талент Марцава: ён умеў па натхненні збіраць разам таленавітых людзей, якія вельмі хутка рабіліся аднай дружнай камандай. Камандай, на чале якой, бачна ці не, стаяў ён, капітан. Капітан Марцаў. Пеця Марцаў, які трыццаць гадоў таму спяваў: «А мы такие молодые».



На гэтым стэндзе можна ўбачаць савецкія грошы, фатаздымкі і дакументы верасnёўскага паходу Чырвонай Арміі



Мундзіры радавога 84-га пяхотнага палка з Пінска, матроса Пінскай флатыліі, капітана 83-га пяхотнага палка з Кобрына



Польская паліцэйская дубінка, адгазнік, французскі штык Пяркун

# Ідэалагічны скандал вакол «Заходнебеларускай Атлантыды»

Аксана КОЛБ

**Маёр МНС, які не назваў журналістам сваё прозвішча і адмовіўся ад каментараў, зрабіў сваю справу. 16 верасня выстава «Заходнебеларуская Атлантыда. Гісторыя Заходняй Беларусі ў міжваенны час у дакументах, фотаздымках і артэфактах» з прыватнай калекцыі гісторыка і нашага журналіста Ігара Мельнікава была зачынена канчаткова. У той жа дзень Ігар дэмантаваў экспазіцыю.**



Экспазіцыя выставы «Заходнебеларуская Атлантыда»



Стэнд пра кантрабанду праз савецка-польскую мяжу

Сам Ігар да апошняга моманту спадзяваўся на тое, што здаровы сэнс пераможа і цкаванне скончыцца. «Яшчэ сёння я спадзяваўся, што ўсё будзе добра. Бо мая выстава расказвае пра гераічны лёс беларусаў, якія змагаліся ў Войску Польскім якраз 75 гадоў таму. Але камусьці гэта не падабаецца. Не падабаецца, што беларусы разам з палякамі змагаліся супраць фашыстаў за сваю зямлю. Не ведаю, адкуль родам ідэолаг Руслан Трухан, але ён дакладна не патрыёт Беларусі», — сказаў з горыччу Ігар Мельнікаў.

Дырэктар музейна-выставачнага комплексу ДУ «Гісторыка-культурны музей-запаведнік «Заслаўе» Мікалай Паграноўскі наогул адмовіўся што-небудзь каментаваць: «Я зараз у такім псіхалагічным стане, што нічога не магу і не хачу каментаваць. Усё і так зразумела». Мікалай Міхайлавіч паабяцаў, што праз нейкі час абавязкова раскажа чытачам НЧ усе падрабязнасці гэтай гісторыі.

Пакуль жа вядома толькі вось што.

Пяць месяцаў (пачынаючы з красавіка) Ігар разам з супрацоўніцай музея Ганнай Чухманавай пры падтрымцы дырэктара Мікалая Паграноўскага рыхтавалі выставу, заказвалі адмысловыя вітрыны, закуплялі рамкі і іншыя неабходныя рэчы. Усё было добра. Заслаўе рыхтавалася да Дня пісьменства. А Мельнікаў увесь вольны час (і, дарэчы, грошы) аддаваў падрыхтоўцы экспанатаў.

Каб пахваліцца дасягненнямі, дырэктар музея паведаміў пра выставу БТ. 2 верасня журналісты Першага нацыянальнага прыехалі ў музей і знялі сюжэт пра экспазіцыю, пагутарылі з Ігарам і яго маці Аленай Мельнікавай. Гэты сюжэт 5 верасня паказалі ў рэгіянальных навінах. А 8 верасня ў цэнтральным рэгіёне (то бок на ўсю краіну).

Напэўна, з гэтага сюжэта ўсё і пачалося. Нехта з не вельмі пісьменных чыноўнікаў, паглядзеўшы па нейкую «заходнебеларускую Атлантыду» вырашыў, што яна не пасуе сучаснаму моманту.

Які чыноўнік даў загад разабрацца, дакладна не вядома. Але ўжо 10 верасня ў музей завітаў Руслан Трухан, начальнік упраўлення па ідэалогіі, культуры і па справах моладзі Мінаблвыканкама. Сам ідэолаг кажа, што быў у Заслаўе толькі на Дні пісьменства, але дырэктар музея запэўнівае, спадар Трухан прыязджаў у музей і сказаў: «Рабі, што хочаш, але каб гэтая выстава не адчынілася». Прыязджаў у музей і галоўны ідэолаг Мінскага раёна Сяргей Кудзін, яму выстава спадабалася, нічога крамольнага ён не ўбачыў.

11 верасня Ігару Мельнікаву (ён якраз быў у рэдакцыі НЧ) патэлефанаваў Мікалай Паграноўскі і паведаміў, што ў іх з'явіліся праблемы, пра якія трэба размаўляць асабіста, а не па тэлефоне. Увечары Ігар сказаў, што выстава, хутчэй за ўсё, не адчыніцца, што Трухан лічыць яе дыскрэдытуючай СССР і што Паграноўскі раіць заўтра раніцай паспрабаваць дамовіцца асабіста з ідэолагам.

На перамовы раніцай 12 верасня паехала маці Ігара Алена Мельнікава, але яна так і не здолела трапіць на прыём да Трухана. Не дачакаўшыся вынікаў гэтых перамоваў, мы апублікавалі на нашым сайце артыкул пра тое, што выстава можа і не адчыніцца. Інфармацыю падхапілі іншыя СМІ, пайшоў рэзананс. А мы тым часам спрабавалі высветліць усе акалічнасці. Пасля 15.00 мне, нарэшце, удалося пагутарыць па тэлефоне з Русланам Труханам, і ён паведаміў: «Мне доложили, что там в аварийной состоянии проводка, поэтому выставку нельзя открывать».

Вы ў гэта б паверылі? Я таксама не паверыла і звязалася з супрацоўнікамі музея. Іх аварыйны стан праводкі таксама здзівіў, бо якраз перад Днём беларускай пісьменнасці ў музеі праводку мянялі, наогул шмат што рамантавалі ажно на 200 мільёнаў рублёў.

Літаральна за гадзіну да анансаванага часу (17.00) стала вядома, што Мікалай Паграноўскі вырашыў усё ж пайсці на неафіцыйнае адкрыццё выставы

У 17.30 некалькі дзясяткаў наведвальнікаў выставы Ігара Мельнікава прывітаў дырэктар музея. Ён падзякаваў Ігару, сваім супрацоўнікам, усім, хто вырашыў пазнаёміцца з экспазіцыяй. А яшчэ сказаў: «Майце мужнасць спакойна ўспрымаць нашу гісторыю!» І мне падалося, што гэта адрасавалася не прысутным...

Цікава, што ўвечары Руслан Трухан патэлефанаваў Алене Мельнікавай і выказаў прэтэнзіі наконт таго, што яны на пустым месцы паднялі міжнародны скандал... (Хто б казаў).

Пасля неафіцыйнага адкрыцця выстава стала даступная толькі для СМІ, якія ў суботу і нядзелю прыязджалі фатаграфаваць экспанаты і гутарыць з Мельнікавым.

15 верасня стала вядома, што да Трухана выклікалі Кудзіна, начальніка аддзела па ідэалогіі, культуры і справах моладзі Мінрайвыканкама. Пра што размаўлялі два ідэолагі, не вядома. Кудзін адмовіўся што-небудзь каментаваць па тэлефоне. Трухан казаў, што нічога не забараняў, і гэта не ў яго кампетэнцыі.

Атрымалася, выставу нібыта ніхто не забараняў, але яна і не працуе.

Што прыдумалі ідэолагі, стала зразумела ўвечары таго ж дня. Мікалай Паграноўскі патэлефанаваў Ігару Мельнікаву і сказаў, што раніцай 16 верасня ў музей прыедуць супрацоўнікі МНС, якія будуць правяраць стан пажарнай бяспекі.

Такім чынам, заварыў усю кашу Трухан (хоць ён у гэтым цяпер і не прызнаецца), а вінаватым уў закрыцці выставы стала МНС.

«Выстава рыхтавалася амаль паўгода. Яе галоўная ідэя — паказаць мужнасць беларускіх жаўнераў польскай арміі, якія першымі ў Еўропе, разам з палякамі, сказалі Гітлеру «не». У верасні 1939 года яны зрабілі крок да перамогі ў маі 1945 года. Аднак відавочна, што сучасным беларускім дзяржаўным ідэолагам гэта старонка нашай гісторыі падаецца не цікавай. Яны лічаць, што беларусы змагаліся з нацызмам толькі ў мундзірах савецкай арміі. Насамрэч, нашы суайчыннікі змагаліся на розных франтах. Змагаліся мужна і аддана. Дзіўная і, прабачце, дурная пазіцыя нашых чыноўнікаў, з-за якой такі цікавы гістарычны праект, як «Заходнебеларуская Атлантыда» фактычна так і не адкрыўся ў Заслаўі. Але я спадзяюся, што ўсё ж знойдзецца іншая магчымасць пазнаёміць аматараў гісторыі з маёй калекцыяй. Дарэчы, я адкрыты для прапаноў», — пракаментаваў сітуацыю Ігар Мельнікаў.

Пры гэтым Руслан Трухан (у нядаўнім мінулым галоўны брсмавец Мінскай вобласці) нават не глядзеў экспанаты, не размаўляў з Ігарам Мельнікавым. Ён проста палічыў, што выстава дыскрэдытуе ролю СССР.

Для чаго ўсё гэта робіцца? З аднаго боку, гэта амаль што рытарычнае пытанне ў нашай краіне. Але з другога — адказ ляжыць на паверхні. Калі б Ігар вырашыў адчыніць выставу, скажам, у снежні, ніхто б яе, магчыма, і не заўважыў. Дык не ж, яму ўздумалася рабіць гэта напярэдадні 17 верасня, 75-годдзя «вызваленчага паходу Чырвонай Арміі». І вось бяда, у сваёй экспазіцыі ён не чырвонаармейцаў праслаўляе, а нейкіх там нікому не вядомых беларусаў, якія да таго ж ваявалі на баку Польшчы. Ну які ж ідэолаг гэта сцерпіць...

Хацелася б яшчэ спытацца, да якога часу малапісьменныя ідэолагі будуць вырашаць, што вартае нашай увагі, а што шкоднае для іміджу краіны? Але адказ на гэта пытанне — тэма зусім іншага артыкулу.

А між тым Ігар Мельнікаў ужо атрымаў некалькі прапаноў для сваёй выставы — з Кіева, Вільні і Лондана. Магчыма, і ў Беларусі знойдзецца годны дырэктар музея, патрыёт краіны, які захоча выставіць прыватную калекцыю Мельнікава ў сябе.

TV

## 28 ВЕРАСНЯ, НЯДЗЕЛЯ

### 1 Беларусь

**07.10** Меладрама «Каханне пад прыкрыццём». 1-я і 2-я серыі.
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Камедыйны серыял «Сваты-6».
**10.50** «Пра ежу!» Кулінарны майстар-клас.
**11.25** xxl woman tv. Жаночы часопіс.
**12.10** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**12.35** «Зона Х». вынікі тыдня.
**13.05** Таямніцы следства.
**13.40** Каробка перадач.
**14.15** Давярай і правярай.
**14.50, 17.05** Вялікае тэлебачанне.
**15.15** Твой горад.
**15.30** Вакол планеты.
**16.20** Журналісцкае расследаванне.
**16.55** Нашы.
**17.15** Прэм'ера! Меладрама «Крывое люстэрка душы». 1-я - 4-я серыі.
**21.00** Галоўны эфір.
**21.55** Навіны надвор'я.
**22.15** Крымінальная меладрама «Сяброўкі».
**00.05** Камедыйны серыял «Сваты-6».

### АНТ

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Смешарыкі. Пін-код».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** «Пакуль усе дома».
**10.40** «Фазэнда».
**11.10** Шоу-гульня «ТБ-таксі».
**11.35** «Гісторыя Расійскай кухні».
**12.05** «Ералаш».
**12.55** «Брэйн-рынг».
**13.55** «Якраз як».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Якраз як». Працяг.
**17.00** «Насмяшы коміка».
**17.45** «Чорна-белае».
**18.50** «Я люблю Беларусь».
**20.00** Контуры.
**21.05** «Подых планеты».
**21.45** «Ледніковы перыяд».
**00.25** Што? Дзе? Калі?

### СТВ

**06.00** «Фірмовая гісторыя». Серыял.
**07.25** «Сардэчна паскардзіцца».
**07.45** Фільм «Ідэальны шторм» (ЗША).



**10.00** «Вялікі сняданак».
**10.40** «Тэрыторыя памылак».
**12.00** «Добры дзень, доктар».
**12.35** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**13.30** Фільм «Сабачае сэрца» (СССР, 1988).
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Аўтапанарама».
**17.20** Канцэрт Міхаіла Задорнава.
**18.25** СТВ прадстаўляе: вячэрні шоу «На тым жа месцы ў той жа час».
**19.30** «Тыдзень».
**20.40** Фільм «Сімона» (ЗША, 2002 г.).
**22.50** Фільм «Нара» (Іспанія, 1969 г.).

### 2 Беларусь

**07.05** Фільм-казка «Залатыя рогі» (СССР).
**08.20** Мазгавы штурм.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Я хачу гэта ўбачыць!
**09.40** «Два з паловай кухары. Адкрытая кухня». Кулінарны майстар-клас.
**10.10** Серыял «Універ. Новы інтэрнат».
**11.25** Іранічны дэтэктыў «Разумнік».
**13.25** Вышэй за дах.
**14.05** Прыгодніцкі баявік «Легенда Зора» (ЗША).
**16.30** «Comedy Баттл. Без межаў». Забаўляльная шоу-праграма.
**17.40** Тэлебарометр.
**18.20** Суперлато.
**19.10** Баскетбол. Чэмпіянат свету. Жанчыны. Беларусь - Куба. Прамая трансляцыя.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Тэлебарометр.
**21.15** Рэальны свет.
**21.50** Vерыял «Універ. Новы інтэрнат».
**23.00** Іранічны дэтэктыў «Разумнік».
**00.50** Кіпень.
**01.10** Хакей для ўсіх.

### 3 Беларусь

**07.50** «Калейдаскоп».
**08.05** «Цяжка быць богам». Мастацкі фільм.
**10.10** «Подых струн». Музычная праграма.
**10.50** «Наперад у мінулае».
**11.15** Хіт-парад. «Сто песень для Беларусі».
**12.05** «Калейдаскоп».
**12.20** «Навукаманія». Чарнобыль: праца над памылкамі.
**12.45** «Лёсы палонных генералаў». «Беларускія катлы». Дакументальны фільм.
**13.55** «VIII Міжнародны фестываль Юрыя Башмета». Лаўрэаты Міжнароднага конкурсу імя П.І.Чайкоўскага.
**15.35** «Калейдаскоп».
**15.50** «Старыя казкі». Гісторыя сварэння дзіцячага фільма «Прыгоды ў горадзе, якога няма».
**16.15** «Прыгоды ў горадзе, якога няма». Мастацкі фільм.
**17.35** «Культпрасвет».
**18.10** Сусветнае кіно. «Сталкер». 1-я і 2-я серыі.
**20.45** Калыханка.
**21.05** «Подых струн». «Песні нашага стагоддзя».
**22.15** «Культпрасвет».
**22.50** «Скачок у волю». Спектакль тэатра Сяргея Янкоўскага. Часткі 1-я і 2-я.
**00.20** «Калейдаскоп».

### 5 Беларусь

**07.15** Футбол. Чэмпіянат Беларусі. «Дынама» (Мінск) - «Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна).
**09.00** Хакей. КХЛ. «ЦСКА» (Масква) - «Дынама» (Мінск).
**10.55** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Ліверпуль» - «Эвертан».
**12.50** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Відэачасопіс.
**13.15** Баскетбол. Чэмпіянат свету. Жанчыны. Паўднёвая Карэя - Беларусь.
**14.55** Мастацкая гімнастыка. Чэмпіянат свету. Прамая трансляцыя.
**17.55** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Вэст Бромвіч» - «Бэрнлі». Прамая трансляцыя.
**19.55** Гандбол. Ліга чэмпіёнаў. Прамая трансляцыя.
**21.35** Баскетбол. Чэмпіянат свету. Жанчыны. Беларусь - Куба.
**23.15** Тэніс. Турнір ВТА. Ухань. Фінал.

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Аб'ектыў.
**07.10** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**07.45** Казкі для дзетак: «Рыцар Пятрусь гербу «Тры яблыкі».
**08.00** «Між намі, буслымі», анімацыйны серыял для дзяцей: 5 серыя.
**08.25** Фітнес-шмітнес.
**08.40** Маю права (юрыдычная праграма).
**09.05** Два на два (тэледыскусія): Аляксандр Ярашук і Алесь Лагвінец.
**09.35** Беларусы ў Польшчы.
**09.50** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**10.20** Невядомая Беларусь: «Усё прыдумана Богам», дак. фільм, 2014 г., Беларусь.
**10.50** «Між намі, буслымі», анімацыйны серыял для дзяцей: 6 серыя.
**11.15** «Mad Men. Утрапёныя-2», серыял: 3 серыя.
**12.00** «Час гонару», серыял: 6 серыя.
**12.50** «Барзах. Між жыццём і смерцю», дак. фільм, 2011 г., Літва.
**13.50** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**14.15** Моўнік (лінгвістычная праграма): У пошуках страчанага: слоўнік Ціхінскага.
**14.30** 54 % (публіцыстычная праграма): Калі з жанчыны робіцца старая баба?
**14.50** Два на два (тэледыскусія): Аляксандр Ярашук і Алесь Лагвінец.
**15.20** «Сямейка Смітаў», рамантычная камедыя, 2005 г., ЗША.
**17.20** «Людскія справы» (аўтарская праграма Алеся Залеўскага).
**17.55** «Ранча», серыял: 55 серыя.
**18.40** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**19.05** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Максім Багдановіч.
**19.20** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**19.55** Эксперт (сатырычная праграма).
**20.25** Дакументальная гадзіна: «Кітай і рэальнасць», дак. фільм, 2011 г., Францыя.
**21.30** Фільматэка майстроў: «Паважны чалавек», камедыя, 2009 г., ЗША.
**23.15** «Фальшываманетнікі. Вяртанне»3-граі»: серыял: 8 серыя.
**00.00** Невядомая Беларусь: «Усё прыдумана Богам», дак. фільм, 2014 г., Беларусь.

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). **Нашы рэквізіты: рахунак 301274 1108019 у аддзяленні №53 9 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153 10073 9. Адрас банка: 22 0004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 22 0113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

**Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 930 79 22, Міхась
**Мінск:** (8 029) 178 31 68, Вольга
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

БЕЛПОЧТА ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐ № ______ (вход, по карте отправки)

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ______
почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ______

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ______
Время приема ______ ч. _____ мин.
Подпись

# Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 3000 руб., аднаго месяца — 12000 руб.
**ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА ПАДТРЫМКУ!**
«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.
**Даведка па тэл: (8 029) 651-21-12.**

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739
УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик
Пеня ______
Кассир Всего ______




# Помста каханкі

Алег НОВІКАЎ

**Пасля таго, як у французскіх кнігарнях з'явілася кніжка былой сяброўкі Франсуа Аланда, рэйтынг папулярнасці прэзідэнта канчаткова абваліўся.**

Як вядома, 4 верасня на паліцах французскіх кнігарняў з'явілася кніжка «Дзякуй за гэты момант» («Merci pour ce moment»), міма якой аўдыторыя папросту не магла прайсці. Валеры Трыервейлер апублікавала мемуары пра сумеснае жыццё з Франсуа Аландам.

Яшчэ да выхаду кнігі ўсе ведалі, што яна выкліча скандал. Пра гэта сведчыў хаця б той факт, што кніга пабачыла свет усяго праз сем месяцаў пасля таго, як пара разарвала адносіны. Гэта быў не проста развод, а сапраўдная драма. Здрада Франсуа каштавала Валеры нервовага зрыву і шпіталю, дзе яна і пачала накідваць першыя старонкі мемуараў.

У прадмове Валеры піша, што ўспрымала працу над кнігай як спробу радыкальна разарваць з мінулым. Без гэтага разрыву яна проста не ўяўляла, як зможа жыць далей. Праца над кнігай стала выратаваннем. Да таго моманту, як Валеры села за кнігу, ёй даводзілася жменямі есці заспакаяльныя таблеткі. Калі верыць прэсе, 235 старонак «Дзякуй за гэты момант» былі напісаныя ўсяго за некалькі тыдняў. Выдавецтва заплаціла за гэтую споведзь 600 тысяч еўра.

У прынцыпе, Валеры Трыервейлер магла атрымаць і больш. Хадзілі плёткі, што агенты Аланда прапаноўвалі значна больш салідную суму ў абмен за тое, што кніга не пабачыць свет. Валеры, аднак, адмовілася, і больш таго, тэхнічна арганізавала ўсё такім чынам, каб у Елісейскім палацы не ведалі ні пра дакладную дату прэзентацыі кніжкі, ні пра яе змест. Таму прэс-сакратар Аланда папросту не ведаў, як каментаваць кампрамат на свайго боса.

Непасрэдна на старонках кнігі Валеры знаёміць чытача з той часткай сваёй біяграфіі, калі яна і Аланд былі неразлучнай парай. Асобная частка прысвечаная 18-ці месяцам, якія яны разам правялі ў Елісейскім палацы пасля перамогі Аланда на выбарах прэзідэнта.

Аднак па сутнасці «Дзякуй за гэты момант» нельга назваць проста мемуарнай літаратурай. Хутчэй, гэта мікст мемуараў і вострай публіцыстыкі. Аўтарка не шкадуе слоў, каб ачарніць былога грамадзянскага мужа. Без асаблівых комплексаў, яна называе Франсуа «каралём пустых словаў, пазёрства і падману». Відавочна, каб прынізіць папулярнасць прэзідэнта ў левых колах, Валеры ўзгадвае маналогі Аланда пра сацыяльныя праблемы. Як гаворыцца ў кніжцы, цяперашні прэзідэнт-сацыяліст кепска ставіцца да бедных суайчыннікаў, называючы іх «дурнямі».

Каварства Аланда, паводле кніжкі, папросту не ведае межаў. Вось ён збіраецца на тайнае рандэву з акторкай Жулі Гайе ў горад Туле. Каб у Валеры не ўзнікла падазрэнняў, Аланд расказвае ёй пра нейкую сустрэчу з выбаршчыкамі. Валеры хоча паехаць з ім. Тады напярэдадні ваяжу ёй раптам становіцца кепска. Як ужо, напэўна, здагадаўся чытач, гэта наш Франсуа з дапамогай нейкіх лекаў адправіў Валеры ў ложак, каб яна не замінала яго інтымным прыгодам.

Дарэчы, дасталася і разлучніцы. Адзін з фрагментаў кніжкі распавядае пра тэлефонную размову Валеры і Жулі. Першая спытала, ці ёсць у суразмоўцы раман з яе грамадзянскім мужам. Жулі катэгарычна адмовіла гэта і запэўніла, што гатовая падаць у суд на любога, хто публічна будзе падазраваць яе ў спатканнях з Франсуа. «Як жа можна так хлусіць?» — не разумее аўтарка кнігі.

Кампрамат на Аланда аказаўся настолькі брутальным, што нават праціўнікі сацыялістаў выказваюць думку, што Валеры перагнула палку. Напрыклад, старшыня Нацыянальнага фронту Марын Ле Пэн мяркуе, што абсалютна ненармальна вось такім чынам зводзіць асабістыя рахункі.

Не кажучы пра тое, што ў чытача ўзнікае лагічнае пытанне: як жа такая цудоўная жанчына, як Валеры, дазволіла такому нізкаму чалавеку, як Франсуа Аланд, восем гадоў дурыць ёй галаву?

Самы слабы блок публікацыі звязаны з маральным партрэтам аўтаркі. Усяму свету вядома, што Валеры звяла Франсуа ад Сегален Руаяль — маці яго двух дзяцей. Яшчэ адзін непрыемны эпізод звязаны з рашэннем Сегален не балатавацца ў прэзідэнты ў 2012 годзе, каб даць дарогу Аланду. Лічыцца, што яна адмовілася ад прэзідэнцкіх амбіцый пасля таго, як Аланд пагадзіўся парваць з Валеры і вярнуцца ў сям'ю. Аднак у выніку Франсуа яе падмануў, і, быццам, значную ролю ў яго канчатковым рашэнні адыграла Валеры. Дарэчы, Сегален раскрытыкавала кніжку, заявіўшы, што гэта поўнае трызненне.

Праўда, Франсуа Аланду ад таго, што ў кнізе хапае супярэчнасцяў і фантазій, наўрад ці лепей. Самае кепскае для Аланда, што кніжка імкліва узначаліла топ бестселераў у Францыі. Па памерах продажу яна абскакала сусветна вядомы эратычны раман «50 адценняў шэрага», французскі пераклад якога пабачыў свет у той жа час.

У прынцыпе, чаго яшчэ было чакаць ад французаў? Але праблема ў тым, што публікацыя «Дзякуй за гэты момант» з'явілася ў вельмі цяжкі для прэзідэнта час: на вуліцы крызіс, урад пайшоў у адстаўку, усе чакаюць пачатку непапулярных рэформаў. Валеры са сваім пасквілем, падаецца, нанесла апошні ўдар. Рэйтынг Франсуа Аланда пасля выхаду твору былой сяброўкі скаціўся да 13 працэнтаў. Гэта абсалютны антырэкорд у гісторыі V рэспублікі. Дарэчы, крыніцы, блізкія да Елісейскага палацу, паведамляюць, што яго гаспадар, прачытаўшы «Дзякуй за гэты момант», ледзь таксама не адправіўся ў шпіталь.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Расійскае эмбарга не аказала крытычнага ўплыву на аб'ёмы экспарту малдаўскай садавіны, прынамсі яблыкаў. Вытворцы, якія раней арыентаваліся на расійскі рынак, кажуць, што па-ранейшаму адгружаюць вялікія аб'ёмы прадукцыі. Проста зараз яна трапляе ў РФ праз Беларусь, дзе змяняюцца сертыфікаты паходжання тавараў. Бярэцца беларускі фермер, у якога ёсць сад, і паказваецца ўраджайнасць 100 тон з гектара. Гэтым займаюцца экспарцёры-пасярэднікі, якія маюць сваю рэнту.

**«Newsmaker» (Малдова)**

Дзеянні Крамля ва Украіне, а таксама «відавочны нейтралітэт Лукашэнкі ва ўкраінскім крызісе» могуць спрыяць дасягненню новага ўзроўню паразумення паміж Захадам і Беларуссю. Хоць Беларусь працягвае знаходзіцца ў эканамічнай залежнасці ад Расіі, Лукашэнка больш зацікаўлены ў падтрыманні нейтралітэту Беларуссю і рээкспарце заходняй сельскагаспадарчай прадукцыі, чым ва ўдзеле ў канфлікце і ў поўнай падтрымцы Крамля.

**«The Guardian» (Вялікабрытанія)**

Сёння, каментуючы нібы паспяховы дыялог АБСЕ з уладамі, мясцовыя назіральнікі не маюць ніякіх ілюзій адносна яго вынікаў. Афіцыйны Мінск будзе рабіць выгляд, што прыслухоўваецца і гатовы штосьці змяняць, а насамрэч будзе рабіць тое, што трэба ўладзе. Яны нагадваюць, што яшчэ зусім нядаўна Дуня Міятавіч не магла атрымаць беларускую візу. Самому офісу АБСЕ ў Мінску было адмоўлена ў падаўжэнні паўнамоцтваў за непатрэбнасцю. Цяперашняе пацяпленне эксперты звязваюць з геапалітычнымі зменамі. Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка імкнецца наладзіць адносіны з Еўропай, бо баіцца быць «задушаным у абдымках» найбліжэйшым саюзнікам. Захад, у сваю чаргу, ужо не такі катэгарычны ў ацэнках дэмакратычнасці беларускіх улад.

**«Независимая газета» (Расія)**

Ва ўзаемаадносінах трох самых магутных постсавецкіх дзяржаў — Расіі, Казахстана і Беларусі — паўстаў раскол, які становіцца тым шырэй, чым даўжэй цягнецца вайна на Данбасе. Калі Расія прайграе геапалітычнае сутыкненне ў Наваросіі, то яны паспрабуюць далучыцца да мацнейшага лагера. Такая вось прагматычная, цынічная і ўсім вядомым сэнсе беспрынцыповая палітыка. Кіраўнік Беларусі Аляксандр Лукашэнка схіляецца да той жа пазіцыі. З моманту публічнага агучвання ідэі ЕАЭС, беларускі лідар не раз акцэнтаваў увагу на неабходнасці стварэння выключна апалітычнага альянсу з гандлёва-эканамічным яго напаўненнем.

**«Biznes» (Расія)**

З 8 па 11 верасня Мінск упершыню за 4 гады наведала з візітам міжведамасная дэлегацыя ўраду ЗША. Мяркуючы па пасадах гасцей, амерыканцаў цікавяць дзве тэмы: пашырэнне прасторы дзейнасці празаходняй апазіцыі, якая дапамагла б у будучыні ўплываць на курс Лукашэнкі, і гатоўнасць Беларусі даць Расіі плацдарм для вайны супраць Украіны. Нагадаем, што ад мяжы з Беларуссю да сталіцы Украіны — усяго тры гадзіны на машыне, і гэта самая блізкая кропка для наступу на Кіеў. Беларусь, са свайго боку, цікавіць, найперш, адмена эканамічных санкцый, уведзеных раней Вашынгтонам і Брусэлем. Адразу пасля далучэння Крыму да Украіны Аляксандр Лукашэнка ў адным з інтэрв'ю выказаў на гэта надзею, заявіўшы, што зараз для Захаду не ён, а Пуцін — «апошні дыктатар Еўропы». Словам, пацяпленне паміж Мінскам і Вашынгтонам сапраўды ў наяўнасці.

**«Россбалт» (Расія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ПОЛЬШЧА. Тайна прафсаюзу «Салідарнасць»

Нямецкая газета «Junge Welt» паспрабавала высветліць, чаму сярод лідараў прафсаюзу «Салідарнасць» было шмат агентаў спецслужбаў. Адказ на гэта пытанне, на думку журналістаў, трэба шукаць у тым, што адбывалася ў іншых рэгіёнах Польшчы, і перш за ўсё ў Любліне. Тут пасля таго, як улетку 1980 года выраслі кошты на прадукты, таксама выбухнуў страйк, аднак ён быў вельмі не падобны на страйк на гданьскай верфі. Справа ў тым, што забастоўшчыкі не мелі ніякіх кантактаў з апазіцыяй і, адпаведна, не кантраляваліся спецслужбамі. Паколькі акцыя ў Любліне набывала ўсё большы маштаб, было вырашана тэрмінова працягнуць забастоўку ў Гданьску (на гэты момант страйк тут закончыўся пасля падпісання пагаднення пра кампенсацыю рабочым росту коштаў). А праз нейкі час улада падпісала з Валенсам пагадненне, фактычна зрабіўшы яго нефармальным лідарам усяго працоўнага руху ў Польшчы. Такім чынам, быццам, удалося захаваць кантроль над пратэстам у правінцыі. Нават калі такая версія — праўда, з улікам далейшых падзей відавочна, што аперацыя ў Гданьску не вельмі дапамагла рэжыму. У 1989 годзе камунізм у Польшчы сканаў.

**Паводле нямецкай прэсы**

### РАСІЯ. Сцяг будзе чырвоным

Непарламенцкая партыя «Камуністы Расіі» прапануе вярнуць у якасці дзяржаўнага сцяга РФ — Чырвоны сцяг СССР. Для гэтага яны маюць намер сабраць 100 тысяч подпісаў. Пра гэта на прэс-канферэнцыі ў Маскве паведаміў старшыня партыі Максім Сурайкін. «Мы лічым, што асаблівa ў рамках 70-годдзя Перамогі, трэба вярнуць народу савецкі чырвоны сцяг». Лідар партыі нагадаў, што дэпутаты Дзяржджумы раней выступалі з ініцыятывай вярнуць імперскі сцяг, аднак, на меркаванне камуніста, «гэта непрымальна». «Трыкалор, пры ўсёй павазе да яго, заўсёды быў сцягам гандлёвага флоту, акрамя таго, ён быў скампраметаваны ўласаўцамі, якія пад гэтым сцягам ваявалі падчас Другой сусветнай вайны супраць савецкага народа», — аргументаваў ён неабходнасць змены дзяржаўнага сцяга РФ на чырвоны сцяг СССР. Ужо вядомы каляндар кампаніі за новую сімволіку. Да 9 мая наступнага года будзе сабрана сто тысяч подпісаў, неабходных для арганізацыі рэферэндуму. У дзень Перамогі іх перададуць у Дзяржджуму.Назіральнікі лічаць, што ў ініцыятараў кампаніі някепскія шансы на тое, каб думцы падтрымалі іх праект.

**Паводле расійская прэсы**

### ГЕРМАНІЯ. Канчыту Вурст не пускаюць у Еўрапарламент

Чарговыя поспехі нямецкай партыі еўраскептыкаў «Альтэрнатыва для Германіі» (AfD), якая па выніках зямельных выбараў 14 верасня ўвайшла ў ландтагі Цюрынгіі і Брандэнбургу, відаць, натхнілі яе лідараў на першую рэзанансную акцыю на міжнародным узроўні. Партыя выступіла супраць правядзення ў будынку Еўрапарламента канцэрту пераможцы Еўрабачання Канчыты Вурст. На думку працаўнікаў еўраінтэграцыі, выступ Канчыты — папросту страта часу, а еўрадэпутатам было б лепш заняцца крызісам у Іраку. Між тым, не менш эмацыйныя сцэны, звязаныя з AfD, адбываюцца ў Берліне. Тут у апараце ўрадавай кансерватыўнай партыі Хрысцінска-дэмакратычны саюз узнікла фракцыя, якая абвінавапіла Ангелу Меркель у тым, што яна дапусціла прарыў «Альтэрнатывы для Германіі» ў палітычны мейнстрым. Фракцыянеры кажуць, што за кошт больш еўрафобскай рыторыкі у свой час можна было лёгка ліквідаваць пагрозу з'яўлення канкурэнтаў з правага боку.

**Паводле нямецкай прэсы**

### КЫРГЫЗСТАН. Медаль за казладранне

14 верасня ў Чалпан-Ата (Кыргызстан) завяршыліся першыя Сусветныя гульні качэўнікаў, у якіх прынялі ўдзел 22 зборныя каманды, больш 430 спартоўцаў з 19 краін. Ініцыятыва правесці такія гульні належыць прэзідэнту Кыргызстана Алмазбеку Атамбаеву, яго падтрымалі краіны-чальцы Савета супрацоўніцтва цюркамоўных дзяржаў. Асноўнымі мэтамі Сусветных гульняў заяўлены ўмацаванне інтэграцыі ў рэгіёне, згуртаванасці цюркамоўных краін. Спаборніцтва праводзіліся па 10-ці вельмі экзатычных відах спорту: барацьба на паясах, скокі на канях па перасечанай мясцовасці на доўгую дыстанцыю, скокі на канях-іназходцах, барацьба на канях і іншыя. Найбольш экзцэнтрычная намінацыя называецца «кок-бару» — «казладранне». Па выніках Сусветных гульняў зборная Кыргызстана лідзіруе ў афіцыйным заліку з агульнай колькасцю 55 медалёў. На другім месцы — зборная Казахстана (28 медалёў). На трэцім месцы — Туркменістан, а вось у Расіі толькі пяць бронзавых медалёў.

**Паводле казахскай прэсы**

# Камбаты сістэму не зломяць

**Спецыфіка цяперашняй выбарчай кампаніі ва ўкраінскую Вярхоўную Раду — наяўнасць практычна ва ўсіх партыйных спісах жаўнераў добраахвотных батальёнаў. Пра феномен парамілітарнай дэмакратыі Алег Новікаў размаўляе з кіеўскім палітолагам Алесяй Шаўчэнка.**



***— Сямён Сяменчанка (батальён «Данбас»), Андрэй Цецярук (батальён «Міратворац»), Ігар Папоў (батальён «Луганск»)... Гэта толькі некалькі камбатаў, якія вырашылі падацца ў палітыку. Як разумець гэты феномен?***

— Такой колькасці жаўнераў у топах выбарчых спісах дакладна ніколі не было. Байцоў батальёнаў запісваюць нават у партыі, якія, быццам, з'яўляюцца пацыфісцкімі. Напрыклад, экалагічная партыя «Зялёная планета» ўключыла ў свой спіс сяброў батальёну «Кіеўская Русь», каб «не дапусціць экалагічную катастрофу на ўсходзе Украіны». Таму я мяркую, што мы маем справу са своеасаблівай праявай часу. Акрамя таго, у электарату папулярны лозунг Майдану — даеш новыя твары ў палітыцы! Іншымі словамі, сфармуляваны грамадскі запыт на такога кшталту персон. Піяр-тэхнолагі канстатуюць з'яву і вымушаны рэагаваць, уключаючы сяброў батальёнаў у партыйныя спісы.

***— Які сацыялагічны партрэт вайскоўца, што падаўся на выбары?***

— Гэта людзі 30–40 гадоў, як правіла, з сярэдняй адукацыяй або незакончанай вышэйшай. У большасці — гэта выхадцы з матэрыяльна кепска забяспечаных груп. Ёсць людзі з сярэдняга класа і са студэнцтва. Агульнай рысай амаль для ўсіх камбатаў з'яўляецца адсутнасць навыкаў прафесійнага вайскоўца.

***— Наколькі людзі накшталт Сямёна Сямечанкі сапраўды здольныя ўплываць на сур'ёзную палітыку?***

— У гісторыі Украіны быў падобны эпізод. Маю на ўвазе партыю УНА-УНСО, якая таксама мела мілітарную секцыю. У часы ранняга Кучмы ў Раду па мажарытарных акругах прарвалася чатыры яе сябра. Яны выдзяляліся сярод дэпутатаў сваімі вайсковым гардэробам, аднак усур'ёз ні нашто не ўплывалі. Ва ўкраінскай сістэме важныя рашэнні прымаюцца вельмі вузкім колам, і тут талент палкаводца або вайсковая біяграфія не запатрабаваныя.

***— Вядомы кіеўскі палітолаг Мікола Пагрэбінскі сцвярджае, што такая колькасць камбатаў можа аказацца крытычнай для новага парламенту. Быццам, яны змогуць за кошт мандату праводзіць у сесійную залу іншых байцоў батальёнаў, якія пачнуць ціснуць на дэпутацкую масу падчас галасавання. Ён прагназуе, што Вярхоўная Рада будзе падобнай на Цэнтральную Раду пачатку 1918 года, дзе ўсё вырашаў галоўны атаман Пятлюра, а не партыйныя групы.***

— Гэта адна з варыяцый папулярнага зараз прагнозу, паводле якога Украіна паўтарыць шлях Італіі, дзе пасля першай сусветнай вайны Беніта Мусаліні з франтавікамі, якія аб'ядналіся ў партыю фашыстаў, прыйшлі да ўлады. Аднак пакуль усё ідзе, хутчэй, не карысць такога сцэнару. Замест таго, каб аб'яднацца пад адным партыйным дахам, камбаты разбегліся па спісах розных партый і агучваюць іх праграмы. Гэта яскрава сведчыць пра адсутнасць у іх саміх сістэмнай альтэрнатывы. У дадатак хлопцы з фронту не разумеюць, наколькі брудная ўкраінская палітыка, дзе важную ролю адыгрывае кампрамат на праціўніка. Супраць камбатаў ужо пачалі выкарыстоўваць чорны піяр. Напрыклад, таго ж Сяменчанку абвінавацілі ў тым, што ён адправіў на смерць адну з ротаў батальёну «Данбас» дзеля асабістага піяру. Ніхто на самай справе не здольны сказаць, праўда гэта або хлусня, аднак так ці інакш міф вакол камбатаў пастунова разбураецца. Як следства, іх прэтэнзіі на тое, каб руліць дзяржавай, карыстаюцца ўсе меншай падтрымкай украінцаў.

***— Ці сапраўды валанцёрскія батальёны адыгрываюць важную ролю ў вайне на Усходзе?***

— Агульнага малюнку няма, паколькі з самага пачатку гэтым фармаванням адводзілася функцыя тылавой міліцыі, якая павінна наводзіць парадак ва ўжо захопленых войскамі пунктах. Аднак вельмі часта батальёны рвуцца на перадавую. Часам такі гераізм меў пазітыў, напрыклад падчас захопу горада Шчасце або Марыупаля, а часам, наадварот, прыводзіў да катастрафічных наступстваў для ўсяго фронту. Распаўсюджана версія, што менавіта авантурызм батальёнаў дазволіў сепаратыстам стварыць кацёл пад Ілавайскам. У дадатак на днях з'явілася заява арганізацыі Amnisty Internatonal, якая заклікае Яцэнюка прыцягнуць кіраўніцтва шэрагу батальёнаў да адказнасці за злачынствы супраць мірнага насельніцтва.

***— Якое стаўленне ў кантрактнікаў або салдат тэрміновай службы Украінскіх узброеных сілаў да батальёнаў?***

— Дакладна вядома пра шэраг канфліктаў паміж кадравымі афіцэрамі і валанцёрамі. Ніякай палітыкі тут няма. Папросту ў батальёнах шмат рамантыкаў, якія не прымаюць шэры вайсковы быт з муштрай, рыццём акопаў, дзяжурствамі і г.д. Батальёны не любяць за тое, што ўвага грамадства і прэсы, матэрыяльная дапамога з тылу перш за ўсё дастаецца менавіта ім. У сваю чаргу, камбаты сцвярджаюць, што іх часткі наўмысна пасылаюць на самыя небяспечныя ўчасткі фронту, каб хутчэй ад іх пазбавіцца. Мяркую, што канфлікты такога кшталту звязаныя з псіхалагічнай нестыкоўкай, калі валанцёры матываваныя змагацца супраць сепаратыстаў, а звычайныя жаўнеры не вельмі жадаюць лезці пад кулі.

***— Вяртаючыся да выбараў. Якія перспектывы ў парламента, што будзе абраны напрыканцы кастрычніка?***

— Новая Вярхоўная рада наўрад ці будзе працаваць 5 гадоў, як таго патрабуе закон, і хутка ў вачах выбаршчыкаў яна стане адказнай за эканамічныя праблемы, якія, відавочна, чакаюць Украіну ўзімку. Камбаты з дэпутацкімі мандатамі стануць закладнікамі гэтага трэнду. І ў тым ліку таму, што вайна працягваецца, і фронт будзе нараджаць новых герояў, якія будуць выглядаць больш свежымі і шчырымі на фоне парламентарыяў, з якіх СМІ будуць рабіць медыя-персон. Магчыма, што інкубатарам новай генерацыі палітыкаў стане новы Майдан. Канфрантацыя паміж алігархічнымі фракцыямі нарастае штодня, і ўжо цяпер паўзуць чуткі, што Фірташ — адзін са спонсараў Еўрамайдану — думае пра арганізацыю новага пратэсту, толькі на гэты раз супраць Парашэнкі. Таму большасць прозвішчаў цяперашніх камбатаў праз пяць гадоў ужо ні пра што не скажуць абывацелю. Аднак, паўтаруся, тут не столькі іх віна, колькі сістэмы. Я пакуль не бачу ў камбатаў патэнцыялу яе зламаць.

# Кельты, на выхад!

Алег НОВІКАЎ

**У Паўночнай Ірландыі таксама думаюць арганізаваць рэферэндум пра выхад краю са складу Вялікабрытаніі.**

12 верасня пайшоў з жыцця Ян Пэйслі — пастар, які ўвасабляў сабой супраціўленне Ольстэра. Ян Пэйслі стаяў ля вытокаў Дэмакратычнай Юніянісцкай Партыі (DUP). За сваю бескампраміснасць ён атрымаў мянушку «Доктар НЕ». Тое, што Пэйслі памёр літаральна напярэдадні рэферэндуму ў Шатландыі, глыбока сімвалічна. Плебісцыт (як бы ён ні закончыўся), на думку практычна ўсіх экспертаў, адкрывае новую эпоху адносін паміж часткамі Аб'яднанага Каралеўства і цэнтрам.

Дакладны фармат новай формулы пакуль не вядомы, аднак, калі меркаваць па абяцанках з Лондану, рэформаў не пазбегнуць. Як піша прэса, інакш новых «шатландый» не пазбегнуць. Безумоўна, галоўны наступны кандыдат на тое, каб паспрабаваць услед за Шатландыяй сказаць Лондану «да пабачэння», — Паўночная Ірландыя. Палова насельніцтва рэгіёну — ірландцы-каталікі. Яны лічаць сябе часткай ірландскай нацыі, для якой тэма нацыянальнага адзінства вельмі важная.

Шатландскі рэферэндум рэанімаваў надзеі ірландцаў-каталікоў на хуткае аб'яднанне з Ірландыяй і адначасова насцярожыў пратэстантаў. Адпаведна, у мясцовым палітычным жыцці пачаліся сапраўдныя хваляванні.

Інтарэс жыхароў краю да працэсаў у Шатландыі тлумачыцца таксама агульнымі старонкамі мінулага. Шатландцы, як і ірландцы, — кельты. Ідэя кельцкай салідарнасці набыла, дзякуючы рэферэндуму ў Шатландыі, новае вымярэнне. Дарэчы, вялікая частка пратэстантаў Паўночнай Ірландыі мае шатландскія карані. Яны прыехалі ў Ольстэр у рамках брытанскай каланізацыі Ірландыі ў XVI–XVII стагоддзі.

Акрамя таго, сама гісторыя ўзнікнення правінцыі Паўночная Ірландыя — цудоўны прыклад таго, як Лондан ставіцца да правоў народаў, якія жывуць на брытанскіх выспах. Калі прыкладна сто год таму Ірландыя атрымала права на самакіраванне, брытанскі ўрад падтрымаў пратэстантаў Белфаста, якія аператыўна абвясцілі сваю рэспубліку. Хутка, насуперак усякім прававым нормам, без усякіх рэферэндумаў, Вестмінстэр прызнаў частку Ірландыі правінцыяй Аб'яднанага Каралеўства.

Статус правінцыі як часткі Вялікабрытаніі быў аформлены напрыканцы 1920-х і захоўваўся да 1970-х гадоў, калі з-за супрацьстаяння каталікоў і пратэстантаў было ўведзена наўпроставае кіраванне з Лондану. У 1998 годзе, пасля падпісання мірнай дамовы, правінцыя атрымала новы статус, які гарантуе кожнай з грамадаў удзел у адміністрацыі праз партыйнае прадстаўніцтва.




**Росту напружанасці ў Паўночнай Ірландыі ўжо не пазбегнуць. Пытанне, што прыйдзе на змену мірнай дамове 1998-га? У выпадку эскалацыі канфлікту, адным з варыянтаў ёсць абвяшчэнне незалежнасці Паўночнай Ірландыі**

Такі кансенсус дазволіў нармалізаваць сітуацыю, аднак не вырашыць праблему ў прынцыпе. Дамінуючыя ў парламенце і вертыкалі партыі — пратэстанцкая DUP і ірландская «Шын Фейн» — ідэалагічна палярныя. Іх актыў і лідары вельмі падазрона ставяцца адзін да аднаго. Па сутнасці, мір успрымаецца як паўза.

Як толькі была ўзнята тэма шатландскага рэферэндуму, замарожаны ў 1998 годзе канфлікт зноў праявіўся. У рамках «шатландызацыі» Паўночнай Ірландыі аранжысты адправілі дэсант у Эдынбург, каб падтрымаць марш мясцовых пратэстантаў за брытанскае адзінства. «Шын Фейн» заявіла пра намер пачаць дыскусію наконт правядзення рэферэндуму аб выхадзе краю са складу Аб'яднанага Каралеўства. Усенароднае апытанне плануюць правесці ў 2016 годзе.

Якія шансы, што такі рэферэндум адбудзецца? На самай справе, Лондан можа падтрымаць ініцыятыву. Як піша «New Staiteman», у лонданскай эліце Ольстэр не ўспрымаецца раўнацэнным Шатландыі з яе газавымі радовішчамі і стратэгічнымі вайсковымі базамі. Акрамя таго, што гэты рэгіён патрабуе датацый, тут існуе цяжкі шматгадовы палітычны крызіс, які Лондан стаміўся вырашаць.

У дадатак, лакальныя палітыкі, асабліва пратэстанты, з'яўляюцца фактарам дэстабілізацыі палітычнага жыцця ў метраполіі. Будучы фанатычнымі хрысціянамі, паплечнікі Пэйслі дазваляюць сабе ксенафобскія выбрыкі, якія не пасуюць мультыкультурнай атмасферы Вялікабрытаніі. Тое, што яны запісалі Рымскага Папу ў д'яблы, ужо нікога не шакуе. А вось нядаўняя заява пра тое, што Алах — злачынец, выклікала абурэнне і радыкалізацыю мусульманскай камуны.

Дублін жа, падаецца, наадварот, не мае ніякай эйфарыі наконт рэалізацыі старой мары ірландцаў пра адзіную краіну. Мясцовы міністр па справах Паўночнай Ірландыі кажа, што важней на дадзеным этапе захаваць стабільнасць у рэгіёне, якую, па яго словах, падрываюць навіны з Шатландыі. Як піша газета «Irish Times», «Адраджэнне мары пра адзіную Ірландыю можа актывізаваць радыкальную фракцыю нацыяналістаў, што, у сваю чаргу, узмацніць групоўкі прабрытанскіх экстрэмістаў». Тое, што Дублін тармозіць ідэю рэферэндуму, магчыма, звязана з эканомікай. Краіна перажывае цяжкі крызіс, і перспектыва павесіць на бюджэт яшчэ сем графстваў Паўночнай Ірландыі можа зацягнуць выхад з эканамічнай дэпрэсіі. Тое, што ў Ірландыі цяжкі крызіс, можа таксама паўплываць на вынікі рэферэндуму, другі шанс на які край зможа атрымаць яшчэ не хутка.

Яшчэ адзін вельмі цікавы момант звязаны з формай дзяржаўнага ладу Ірландскай рэспублікі. У выпадку прыяднання да Ірландыі сямі паўночных графстваў, іх жыхары страцяць тое, што маюць як падданыя яе Вялікасці. Гэта права мець свой рэгіянальны парламент і ўрад, і нават асобную зборную па футболу. Наўрад ці мясцовая эліта захоча такой схемы інтэграцыі. Хутчэй за ўсё, яна будзе дабівацца аўтаномных правоў, а гэта, па сутнасці, будзе значыць, што пытанне Ольстэра нікуды не падзенецца, а проста набудзе новую афарбоўку.

Аднак наўрад ці статус-кво таксама захаваецца. Хутчэй за ўсё, палітызацыі грамадскага жыцця і росту напружанасці ў Паўночнай Ірландыі ўжо не пазбегнуць. Пытанне, што прыйдзе на змену мірнай дамове 1998-га? У выпадку эскалацыі канфлікту, адным з варыянтаў ёсць абвяшчэнне незалежнасці Паўночнай Ірландыі. Відавочна, што Лондан і Дублін не жадаюць браць на сябе адказнасць за лёс правінцыі і за наступствы такога кроку, ды яшчэ ў цяперашніх эканамічных умовах.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Нурсултан Назарбаеў



Прэзідэнт Казахстана прадэманстраваў абсалютны лібералізм пасля таго, як не пакараў групу мастакоў, якія выклалі ў сецiва серыю карыкатур, дзе казахскі гарант быў выяўлены як персанаж гульні «Angrie bierds». Выявы з шаржамі на Назарбаева з'явіліся 12 верасня, і іх аўтары адразу сталі рыхтавацца да самага горшага. Справа ў тым, што ў Казахстане дзейнічае Закон аб лідары нацыі, або Закон аб першым прэзідэнце, якім забараняецца скажаць рысы твару першага прэзідэнта краіны. Гэта, дарэчы, робіць казахскае заканадаўства абсалютна ўнікальным у свеце, хаця ніводнага карыкатурыста яшчэ па гэтым артыкуле не пасадзілі (яны, як правіла, самі намагаюцца не маляваць Елбасы). Магчыма, у выпадку з групай мастакоў спрацаваў той факт, што яны побач з малюнкамі прызналіся ў любові да лідара нацыі. Што тычыцца афіцыёзу, то там кажуць, што бываюць брыдкія і нябрыдкія карыкатуры на Назарбаева. «Усё залежыць ад таго, якога характару шаржы. Ёсць шаржы добразычлівыя, якія падтрымліваюць чалавека, нязлыя. У гэтым нічога страшнага няма. А калі гэта брудныя і палітызаваныя малюнкі, за гэта трэба даваць не толькі па руках, але і па фізіяноміі», — растлумачыў адзін з праўладных дэпутатаў.

### Пётр Парашэнка



Прэзідэнт Украіны на мінулым тыдні адзначыў соты дзень на пасадзе кіраўніка краіны. Мякка кажучы, 100 дзён Пётра Аляксеевіча атрымаліся не вельмі. Спачатку Парашэнка адклаў пачатак працы зоны вольнага гандлю з ЕС, а 16 верасня пралабіраваў закон аб асаблівым статусе раёнаў Данбасу, што знаходзяцца пад кантролем ДНР і ЛНР. Такім чынам, Кіеў фактычна прызнае аўтаномію нефармальных рэспублік, і нават гатовы працягваць фінансаванне мясцовай адміністрацыі і эканомікі. Крытыкі гэтага закону на адрас Парашэнкі не проста шмат, а вельмі шмат. Асноўныя пункты — ДНР і ЛНР за кошт праваахоўцаў на мяжы могуць патрабаваць дадатковых субсідый і перагляду бюджэту. Фракцыя данецкіх у Вярхоўнай Радзе складзе каля 80 чалавек і будзе здольная ўплываць на тэмпы руху Украіны ў ЕС. Руская мова практычна атрымала статус другой афіцыйнай мовы ў краіне. Нарэшце, сам закон аб асаблівым статусе быў прыняты ў духу часоў Януковіча. Экран у залі выключылі, а вынікі галасавання абвясціў спікер. Пакуль цяжка зразумець прычыны, якія прымусілі Парашэнку ініцыяваць і імкліва праштурхнуць настолькі супярэчлівыя законы. Між тым, некаторыя патрыёты лічаць, што цяпер Заходняя Украіна можа патрабаваць для сябе аналагічнага статусу, што створыць супрацьвагу прарасійскаму ўсходу.

### Леанард Пелцiер



Вядомаму змагару за правы індзейцаў ЗША 12 верасня споўнілася 70 гадоў, з якіх 40 гадоў ён правёў за кратамі за забойства двух паліцэйскіх, якое, па яго словах, ён не здзяйсняў. Магчыма, 40 гадоў у турме — гэта яшчэ не так кепска, з улікам таго, што Леанарда спачатку асудзілі на смяротнае пакаранне, якое пасля адкладалі, паколькі з'явіліся сумневы ў правільнасці прысуду. Прынамсі, у абарону Пелцiера выступілі шмат славутых асобаў — Маці Тэрэза, Міхаіл Гарбачоў, Мадонна, Далай Лама і г.д. 70-ы дзень нараджэння Пелцiера быў даволі гучна адзначаны ў свеце як пачатак новай кампаніі за яго вызваленне. Дарэчы, у 2010 годзе Леанарду адмовілі ў датэрміновым вызваленні і пастанавілі правесці наступныя слуханні ў 2024-м. Але Пелцiера можа вызваліць генеральны пракурор ЗША, чаго і дамагаюцца сябры кампаніі салідарнасці з правадыром індзейцаў. Яшчэ адзін шанс для Леанарда — асаблівае памілаванне ад прэзідэнта ЗША, якое ён звычайна робіць перад сыходам з Белага дома. У наступным годзе Абама пакіне сваю пасаду і, па словах актывістаў індзейскіх арганізацый, Пелцiер — адзін з кандыдатаў на амністыю.

# Верасень 1939-га

## Забытая абарона Брэсцкай крэпасці

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Падчас Другой сусветнай вайны цытадэль на Бугу абаранялася ад наступаючых нацысцкіх войскаў двойчы: у 1939-м і 1941-м. У верасні 1939 года ў Брэсцкай крэпасці мужна змагаліся з нацыстамі жаўнеры Войска Польскага, сярод якіх было шмат ураджэнцаў Заходняй Беларусі.**

### Стратэгічная сталіца Палесся

У міжваенны перыяд Брэст быў цэнтрам палескага ваяводства і IX карпуснай акругі Войска Польскага. У адным з польскіх перыядычных выданняў за 1930 год пазначалася: «Брэст над Бугам (такую назву горад атрымаў 12 лістапада 1923 года) жыве з арміі і чыноўнікаў. Цяжка знайсці горад з гісторыяй у 1000 гадоў, у якім нічога б не нагадвала пра гэтую старажытнасць. Брэст над Бугам — горад без традыцый, без слядоў мінулага». Безумоўна, галоўным аб'ектам Брэста была крэпасць.

У 1922 годзе тэрыторыя II Рэчы Паспалітай была падзелена на 10 вайсковых карпусных акруг. У склад IX акругі ўваходзіла частка Беластоцкага, Навагрудскага, Люблінскага і амаль усё Палескае ваяводства. На гэтай тэрыторыі дыслакаваліся 9-я, 20-я, 30-я пяхотныя дывізіі, 9-я брыгада кавалерыі, Пінская рачная флатылія, брыгада Корпусу аховы памежжа «Палессе». Цэнтрам акругі была Брэсцкая крэпасць, якая ў вайсковых дакументах называлася «ўмацаваным лагерам Брэст».

Польскія вайсковыя ўлады правялі частковую рэканструкцыю крэпасці. На тэрыторыі цэнтральнага вострава размяшчаліся будынкі камандавання. Паўночны востраў, на якім знаходзіліся Валынскія ўмацаванні, атрымаў назву Шпітальнага. Тут знаходзіўся акруговы шпіталь. Заходні востраў быў названы Лётным. У 1938 годзе сюды з Пінску планавалася перавесці галоўную базу Пінскай флатыліі. У былым форце «Граф Берг», які палякі перайменавалі ў «Форт Сікорскага», дыслакаваўся дывізіён 9-га палка цяжкай артылерыі. У Кобрынскіх умацаваннях у 1921 годзе быў створаны вайсковы следчы ізалятар. Менавіта тут у 1930 годзе знаходзіліся некалькі дзясяткаў польскіх апазіцыйных палітыкаў, арыштаваных па загадзе Юзафа Пілсудскага. На вуліцы 3-га мая (зараз Пушкінская), размяшчаліся казармы танкістаў, а таксама тэхнічныя майстэрні 4-га танкавага батальёну і 9-га аўтамабільнага дывізіёну. У сярэдзіне 1930-х гадоў у 7 кіламетрах ад Брэста быў створаны Цэнтр падрыхтоўкі жаўнераў супрацьпаветранай абароны Траўгутава. Тут дыслакаваўся 9-ты дывізіён СПА і школа падхарунжых.



Польскія браневікі ў Брэсцкай крэпасці



Танкетка ТКС пад Брэстам



Вацлаў Радзішэўскі (сядзіць). Пачатак 1930-х



Вацлаў Радзішэўскі з жонкай

У 1938 годзе польскія ўлады стварылі Музей крэпасці, у якім экспанаваліся артэфакты, знойдзеныя на тэрыторыі крэпасці. Сярод экспанатаў быў і стол, за якім падпісвалася Брэсцкая мірная дамова ў сакавіку 1918 года. Сувязь з горадам адбывалася пры дапамозе вузкакалейнай чыгункі. Рэйкі праходзілі па вуліцы Люблінскай уніі (зараз Леніна) ад будынку ваяводскай управы (зараз гарвыканкам) да вуліцы Ягелонскай, а адтуль — да станцыі ў цытадэлі.

### Вайна

У канцы 1930-х гадоў найбольш верагодным праціўнікам Чырвонай Арміі ў будучай вайне Крэмль разглядваў менавіта Войска Польскае, і ў гэтым сэнсе пад увагу бралася і Брэсцкая крэпасць. У сваю чаргу, у II Рэчы Паспалітай таксама рыхтавалі абарончы план на выпадак вайны з усходнім суседам, аднак цытадэль на Бугу ў ім ужо не адыгрывала вялікай стратэгічнай ролі. У Варшаве разумелі, што Брэсцкая крэпасць — гэта перш за ўсё вялікі вайсковы гарнізон. А для стратэгічнай абароны больш прыдатным, па меркаванні польскіх генералаў, быў Баранавіцкі ўмацаваны ўчастак. Увесну 1939 года, падчас прыхаванай мабілізацыі, камандуючы IX карпуснай акругай, брыгадны генерал Францішак Клееберг атрымаў загад падрыхтаваць і накіраваць на захад асноўныя вайсковыя часткі, якія дыслакаваліся ў акрузе. 23 жніўня ў Польшчы пачалася ўсеагульная мабілізацыя, а камандаванне IX акругі атрымала загад забяспечыць мабілізацыйны працэс і рыхтаваць рэзервы для дзеючай арміі.

З першага дня Другой сусветнай вайны на горад і крэпасць пасыпаліся бомбы. «Люфтвафэ» бамбіла чыгуначны вузел, масты праз Буг і Мухавец, казармы 35-га і 82-га пяхотных палкоў у Граеўцы. Хутка быў выдадзены загад аб эвакуацыі з крэпасці сямей вайскоўцаў і цывільнага персаналу. 7 верасня 1939 года на Брэст і крэпасць адбыўся адзін з самых моцных авіяналётаў, у якім удзельнічала 15 нямецкіх самалётаў. Найбольш людзей загінула на брэсцкіх вуліцах Міцкевіча, Дамброўскага і 3-га мая. У гэты ж дзень у крэпасць прыбыла стаўка вярхоўнага галоўнакамандуючага маршала Эдварда Рыдз-Смiглы. Не выключана, што авіяналёт быў звязаны менавіта з гэтым. Праўда, ужо ў ноч з 11 на 12 верасня галоўнакамандуючы эвакуіраваўся з Брэста ва Уладзімір-Валынскі. Разам з vip-калонай Брэст пакінула і частка батарэі 9-га дывізіёну артылерыі СПА. 13 верасня штаб генерала Клееберга быў перанесены ў Пінск.

Брэсцкая крэпасць была выключаная са складу тылавых раёнаў і стала раёнам баявых дзеянняў. Камандаванне карпуснай акругі IX атрымала загад аб стварэнні заслоны на лініі Брэст—Пінск. Клееберг неадкладна прыступіў да арганізацыі абароны і пачаў збіраць усе наяўныя сілы ў адзін кулак. Так была створана аператыўная група «Палессе». Камандуючым абаронай Брэсцкай крэпасці быў прызначаны брыгадны генерал Канстанты Плісоўскі.

### Крэпасць рыхтуецца да бітвы

Да 12 верасня ў цытадэлі на Бугу знаходзіліся, у асноўным, маршавыя часткі пяхотным палкоў, ахоўныя падраздзяленні, а таксама вялікая колькасць рэзервістаў, якія чакалі адпраўкі на фронт. Усяго ў крэпасці налічвалася ад 2 да 4 тысяч жаўнераў і афіцэраў. Пацверджанне таму, што ў верасні 1939-га асноўную частку гарнізона Брэсцкай крэпасці складалі беларусы і ўкраінцы, мы знаходзім у працы польскага гісторыка Юліўша Тыма, які адзначае, што аб'яўленне ўсеагульнай мабілізацыі прывяло да таго, што гарнізон Брэсцкай крэпасці быў папоўнены значнай колькасцю рэзервістаў са складу мясцовых жыхароў. А ўсеагульная мабілізацыя ў жніўні прывяла да яшчэ большага прытоку мясцовых рэзервістаў.

У выпадку страты перадавых пазіцый, гарнізону крэпасці прадпісвалася падарваць усе масты і заняць абарону ў цытадэлі.

Па стане на 14 верасня 1939 гарнізон крэпасці складаўся з:

1. Маршавага батальёна 33-га палка пяхоты з Ломжы (няпоўнага складу) пад камандаваннем капітана запасу Юзафа Шчупака;
2. Маршавага батальёна 34-га палка пяхоты з Бялай-Падляскі пад камандаваннем капітана Тадэвуша Радзішэўскага;
3. Маршавага батальёна 35-га палка пяхоты з Брэста пад камандаваннем капітана Здзіслава Бачынскага;
4. Маршавага батальёна 82-га палка пяхоты з Брэста пад камандаваннем Вацлава Радзішэўскага;
5. 49-га дывізіёна палявой артылерыі пад камандаваннем маёра Станіслава Камарніцкага;
6. 3-й артылерыйскай батарэі СПА, сфарміраванай у 9-м артылерыйскім дывізіёне СПА ў Траўгутава;
4. 56-га сапёрнага батальёна;
5. 112-й і 113-й танкавых рот (танкі «Рэно ФТ-17», танкеткі ТКС);
6. 9-га аўтамабільнага дывізіёна з Брэста пад камандаваннем маёра Уладзіслава Яскульскага;
7. Роты сувязі пад камандаваннем падпаручніка рэзерву Люцыяна Слівінскага;
8. 81-га і 82-га ахоўных батальёнаў.

У распараджэнні абаронцаў крэпасці было 12–16 старых танкаў «Рэно», 18 палявых гармат, 8 зенітных гармат, 16 станковых кулямётаў. Гарнізон Брэста меў 2,5 мільёна штук боепрыпасаў для стралковай зброі, 7632 штук ручных гранат, 1920 супрацьтанкавых снарадаў калібру 37-мм, 400 штук снарадаў для зенітных гармат, 16200



Танк «Рэно ФТ-17». З дапамогай такіх танкаў абаранялася Брэсцкая крэпасць у верасні 1939 г.



Польскія танкеткі ТКС у Брэсцкай крэпасці



Парад бальшавікоў і немцаў у Брэсце 22 верасня 1939 г.

штук снарадаў калібру 75-мм, 4800 штук снарадаў калібру 100-мм, 3034 снарады калібру 105-мм і, нарэшце, 574 снарады калібру 155-мм. Крыху пазней, абарону крэпасці ўзмацнілі два бронецягнікі — «Смелы» і «Барташ Главацкі».

На паўночным участку каля Брэсцкіх варот абарону заняў маршавы батальён 33-га пяхотнага палка і часткі аховы, на ўсходнім — маршавы батальён 82-га палка. Заходні ўчастак, ля Тэрэспальскіх варот, абараняў батальён 34-га палка пяхоты і рота аховы. На поўдні, каля Шпітальнай брамы, абарону трымаў маршавы батальён 35-га палка. Галоўныя сілы артылерыі засяродзілі на паўночным участку абароны. У раёне следчага ізалятара «Брыгідкі» размясцілі ўмацаваны артылерыйскі пункт 3-й батарэі СПА. На валах былі створаны акопы і размешчаны кулямёты. Танкі «Рэно» ўкапалі, ператварыўшы іх у доўгачасовыя агнявыя кропкі. Некалькімі танкамі забарыкадавалі ўязныя брамы.

## Бітва

Наступ на Брэст вёў XIX танкавы корпус Хайнца Гудэрыяна. Яго мэтай было авалоданне горадам і крэпасцю Брэст з наступным развіццём наступу ў кірунку Ковеля. Гэтыя дзеянні павінны былі прывесці да поўнага акружэння польскай арміі на лініі Буга паміж Брэстам і Холмам. Каб скаваць манеўр немцаў, генерал Плісоўскі накіраваў на ўсход бронецягнік № 55 «Барташ Главацкі», які ў раёне Жабінкі выгрузіў танкеткі ТКС. Тыя, у сваю чаргу, правялі выведку ў раёне мосту праз Мухавец, аднак хутка сутыкнуліся з нямецкімі танкамі з 3-й танкавай дывізіі. У ходзе бою 3 ТКСы былі знішчаныя, а дзве змаглі адыйсці. Немцы спрабавалі пераследаваць, аднак напароліся на загараджальны агонь «Барташа Главацкага». У гэты ж час другі бронецягнік «Смелы» пад камандаваннем беларуса, капітана Мечыслава Маліноўскага праводзіў выведку ў накірунку Высокага і сутыкнуўся там з танкамі 10-й нямецкай танкавай дывізіі. Экіпаж бронецягніка адкрыў ураганны агонь па немцах і прымусіў іх адступіць. Аднак хутка немцы захапілі Брэсцкі чыгуначны вакзал, і генерал Плісоўскі аддаў загад бронецягнікам адступіць у кірунку Ковеля.

Увечары 13 верасня з боку Відамлі да Брэста пад'ехалі чатыры нямецкіх танка. Супраціву не было, і Гудэрыян зразумеў, што абарону па лініі знешніх фартоў крэпасці не зладзілі. 14 верасні нямецкія часткі авалодалі Брэстам і пачалі хуткае прасоўванне ўглыб. На падыходзе да цытадэлі палякі зрабілі засаду з замаскіраваных гармат капітана Тадэвуша Янішэўскага. Калі нямецкія танкі апынуліся на адлегласці 80 метраў ад агнявых пазіцый палякаў, тыя адкрылі агонь.

Вось як гэты бой апісваў адзін з салдат нямецкай 10-й танкавай арміі: «Мы рушылі далей на Брэст. 20 км. Гэта як скачок ката. Капітана распірае ад захаплення. Раніцай ён сказаў сапёрам, што хоча заняць крэпасць. Рашучыя дзеянні, на яго думку, могуць зламаць нават колькасную перавагу праціўніка. Натуральна, сапёры лепей за ўсіх падыходзілі для рэалізацыі гэтага плана. Яны чортавы мужыкі, вопытныя майстры ў абыходжанні з выбухоўкай і знаёмыя з усялякімі тэхнічнымі фокусамі. Абвешаныя мяшкамі, поўнымі ручных гранат, яны занялі па двое месцы на танках. Сядзелі на брані. Гэтыя салдаты годныя павагі, яны хацелі быць сярод першых заваёўнікаў Брэста.

Нарэшце мы былі ў горадзе. Дзе да чорта гэтая крэпасць? Цытадэль было цяжка пазнаць, звонку яна аточаная дрэвамі і была акружана паркамі і плошчамі. Вось і галоўная дарога. Адно было дрэнна ў ёй. Яна прамая, як свечка. На ёй было ўсё відаць здалёк, задоўга да таго, як сам каго-небудзь убачыш. Толькі гэтая думка ўзнікла ў галаве, а ўжо загрымела польская гармата. Снарад ударыў у вежу камандзірскага танка. Яго дэтанацыя абсыпала градам аскепкаў абодвух сапёраў. Яны былі забітыя і ўпалі на дарогу. Другі стрэл з польскай гарматы, якая, хутчэй за ўсё, была добра прыстраляная, слізгануў па вежы другога танка. Абодва сапёры, якія сядзелі там, таксама былі забітыя, а іх гранаты здэтанавалі. Гарматы палякаў стралялі па вельмі нізкай траекторыі, пад дрэвамі. Наш танк стрэліў у бок крэпасці, але траекторыя снарада была занадта крутой. Снарады зрывалі лісце з дрэў і разрываліся сярод галін. У бакавым завулку капітан і фельдфебель выбеглі з танка, заляглі і праз бінокль хацелі вызначыць пазіцыю польскіх гармат. Але неўзабаве каля іх сталі рвацца снарады. Палякі так добра прыстраляліся, што адразу пасылалі снарад туды, дзе нехта спрабаваў высунуцца. Адзін матацыкліст, якога не паспелі папярэдзіць, нёсся па дарозе. Яму крычалі. Ён быццам бы чуў, але чарговым снарадам матацыкл быў разбіты. Нам давялося шукаць новы напрамак для наступу».

А так тыя падзеі апісваў камандзір кулямётнага ўзвода, капрал Войска Польскага, беларус Міхаіл Семянюк: «Першы раз германец ударыў ноччу. З боку горада пайшлі танкі і пяхота. Яны скінулі нашых са знешніх валоў крэпасці, але далей прасунуцца не змаглі. Раніцай пачаўся артылерыйскі абстрэл. Гэта быў існы кашмар. Фугасы проста пераворвалі цытадэль. Потым немцы зноў пайшлі ў атаку. Нашы кулямёты выгадна стаялі на абсталяваных пазіцыях і «рэзалі» нямецкую пяхоту кінжальны агнём. Аднак і ў крэпасці рваліся снарады. Ад абстрэлу загінула шмат нашых людзей. Шкада, баявыя былі хлопцы, як адзін, уставалі ў атаку. Уначы я разам з таварышамі падбіраў і вёз забітых за раку, на Тэрэспаль. Тэрэспальскім мост мы ўтрымлівалі да апошняга».

14 верасня 1939 года 3-я нямецкая танкавая дывізія захапіла Жабінку і ўступіла ў боесутыкненне з абаронцамі Кобрына. 20-я матарызаваная дывізія вермахта рухалася ад Воўчына ў накірунку Брэсцкай крэпасці. 10-я танкавая дывізія наступала ўздоўж шашы Чарнаўчыцы—Брэст. Супраць 154 танкаў і 57 браневікоў немцаў польскія абаронцы цытадэлі на Бугу маглі супрацьпаставіць 57 супрацьтанкавых ружжаў, 18 палявых і 8 супрацьпаветраных гармат. Галоўны штурм немцы распачалі 15 верасня. Салдатам 20-й пяхотнай дывізіі вермахта ўдалося прарвацца ў цытадэль з боку Брэсцкіх варот. Абаронцы крэпасці выкацілі гарматы і зенiткі на прамую наводку і спрабавалі стрымаць наступаючых гітлераўцаў.

Вось як той бой апісваў лейтэнант вермахту Фрам: «Палякі спрабавалі пад прыкрыццём кулямётнага агню расстаўляць свае гарматы, але наш кулямёт расстрэльваў усе іх разлікі, адзін за другім. Аднак усё новыя і новыя жаўнеры ў аліўкавых мундзірах выходзілі з казематаў і беглі ў бок гармат. Калі мы выкарысталі ўсе патроны і гранаты, нам трэба было адысці. І тут з лініі польскіх акопаў, якая засталася ў нас за спінамі, зноў пачаўся смяротны абстрэл. Вораг дабраўся туды праз нейкія, не вядомыя нам, пераходы. Тады мы страцілі шмат добрых жаўнераў».

Цытадэль гарэла, не было сувязі, колькасць параненых і забітых кожную хвіліну павялічвалася. Параненых размяшчалі ў будынку шпіталя, а таксама эвакуявалі ў Тэрэспаль. 16 верасня ў небе над крэпасцю з'явіліся нямецкія бамбардзіроўшчыкі «Штука». Бамбёжка была жудаснай. Вось як гэтыя падзеі апісвае Міхаіл Семянюк: «У нас засталося толькі пяць ствалоў артылерыі, казематы і падвалы былі перапоўнены параненымі. Каля 10-ці раніцы пачаўся новы штурм. Два нямецкія батальёны, узмоцненыя танкамі, атакавалі ўмацаванні паблізу Брэсцкіх варот. Частка валоў была страчана. Адчайныя спробы адбіць іх поспеху не мелі».

Жорсткі бой у той дзень адбыўся ля Брэсцкай брамы. Менавіта там польскі снайпер забіў ад'ютанта камандуючага XIX корпусам падпалкоўніка Браўбаха. 69-ты пяхотны полк вермахта падчас гэтых баёў панёс значныя страты.

## Адыход

За час баёў з 14 па 16 верасня абаронцам Брэсцкай крэпасці давялося адбіць 7 нямецкіх атак. У гэтых баях загінула да 40 працэнтаў гарнізона. Каля 18.00 16 верасня генерал Плісоўскі аддаў загад аб прарыве з крэпасці ў бок Тэрэспаля, які яшчэ не быў захоплены немцамі. Праз Сапёрную браму і Лётны востраў цытадэль пакінулі парэшткі маршавых батальёнаў 33-га, 34-га, 35-га пяхотных палкоў, ахоўныя батальёны, артылерысты, 1-я рота сапёраў. Каля 2000 жаўнераў, якім удалося вырвацца з атачэння, пад камандаваннем палкоўніка Алоіза Хорака, працягнулі баявыя дзеянні супраць нацыстаў на Любліншчыне і змагаліся да кастрычніка 1939 года.

У 8.30 17 верасня 1939 года пасля артпадрыхтоўкі немцы пайшлі на чарговы штурм Цытадэлі. Параненыя вайскоўцы, якія знаходзіліся ў крэпасці, а таксама персанал шпіталя былі ўзятыя ў палон. Усяго пасля заканчэння штурму цытадэлі ў руках нацыстаў апынулася каля 1300 жаўнераў Войска Польскага. Але здаліся не ўсе. У адным з фортаў камандзір маршавага батальёна 82-га палка капітан Вацлаў Радзішэўскі са сваімі людзьмі вырашыў да канца абараняць цытадэль. Батальён Радзішэўскага складаўся ў тым ліку і з рэзервістаў-беларусаў, ні адзін з якіх не пажадаў пакінуць свайго камандзіра, — яны змагаліся за сваю зямлю. Рэшткі гэтай вайсковай адзінкі ў перыяд з 17 па 26 верасня 1939 года аказалі ўпартае супраціўленне немцам, а затым і часткам Чырвонай Арміі. У ноч з 26 на 27 верасня капітан з невялікай групай абаронцаў пакінуў крэпасць і накіраваўся да вёскі Муравец. Неўзабаве пасля гэтага Вацлаў Радзішэўскі быў арыштаваны НКУС і ў красавіку 1940 года расстраляны ў Катыні. Такі ж лёс нападкаў і камандуючага абаронай Брэсцкай крэпасці генерала Канстанту Плісоўскага. Пасля адыходу з Брэста ён трапіў у савецкі палон і апынуўся ў Старабельскім лагеры. У красавіку 1940 года Плісоўскага расстралялі ў будынку харкаўскага ўпраўлення НКУС.

## Ганебны парад

17 верасня 1939 года савецка-польскую мяжу перайшлі часткі Чырвонай Арміі. Ужо ўвечары таго ж дня танкі з чырвонымі зоркамі ўвайшлі ў Баранавічы, а праз два дні 29-я танкавая брыгада заняла Пружаны.

22 верасня савецкія падраздзяленні ўвайшлі ў Брэст. Вось як тыя падзеі апісваў камандзір 29-й брыгады Чырвонай Арміі Сямён Крывашэін: «У цэнтры Брэста, у будынку ваяводскай адміністрацыі, знаходзіўся штаб Гудэрыяна. Камендант горада пайшоў далажыць аб маім прыбыцці. Я чакаў каля 10 хвілін у зале з прыгожымі партрэтамі польскіх гетманаў. З'явілася група афіцэраў, сярод якіх быў малы, сухі генерал. Ён стаў у трох кроках перад мной і сказаў, што ў маёй асобе вітае Чырвоную Армію. Пазней Гудэрыян прапанаваў арганізацыю парада, сумеснага. Мы былі стомленыя і брудныя пасля доўгага маршу, і я адмовіўся. Але нарэшце дамовіліся аб тым, што я вылучу для ўдзелу ў сумесным парадзе аркестр і батальён танкаў Т-26. Гудэрыян прасіў, каб мы разам стаялі на трыбуне. Мы так і зрабілі».

А 16 гадзіне 22 верасня 1939 года на вуліцы Люблінскай уніі адбыўся парад «пераможцаў». Перад трыбунай, на якой стаялі генерал Хайнц Гудэрыян і камбрыг Сямён Крывашэін, прамаршыравалі спачатку нямецкія часткі (полк 20-й матарызаванай дывізіі вермахту, узвод матацыклістаў, два дывізіёны артылерыі), а пазней савецкія (аркестр, пяхота, артылерыя і некалькі танкаў).

Адзін з жыхароў Брэста, апісваючы гэтую падзею, успамінаў: «Спачатку прайшлі немцы. Вайсковы аркестр граў невядомы марш. Затым у небе з'явіліся нямецкія самалёты. Чырвонаармейцы ішлі ўслед за немцамі. Яны вельмі адрозніваліся ад германцаў: ішлі не ў нагу, рамяні мелі брызентавыя. Коні, якія цягнулі іх гарматы, былі малымі і з кепскай вупражжу. За савецкай артылерыяй ехалі гусенічныя трактары, якія цягнулі гарматы большага калібру, а далей ехалі танкі».

У СССР пра гісторыю гэтай абароны Брэсцкай крэпасці не любілі ўспамінаць. У Беларусі доўгі час пра тыя падзеі памяталі толькі жыхары горада на Бугу. Зараз гістарычная праўда пра абарону 1939 года вяртаецца з небыцця. Беларусам варта памятаць, што вялікую ролю ў той бітве адыгралі менавіта нашы суайчыннікі, ураджэнцы Заходняй Беларусі. Гэтыя жаўнеры да канца абаранялі сваю зямлю.

**У артыкуле выкарыстаныя фота з сямейнага архіву спадарыні Дануты Неміра-Канецкай.**

# Музыка — гэта перш за ўсё наша духоўная спадчына

Анатоль МЯЛЬГУЙ

**Пасля 17 гадоў музычных падарожжаў Сціў Крамер вярнуўся ў Беларусь, стварыў гурт «МЕРАДА» і рыхтуе да выхаду беларускамоўны альбом. Нагодай для нашай са Сціват размовы стаў памятны здымак амаль дваццацігадовай даўніны.**



Гурт «БОНДА» і Сціў Крамер — злева. 1986 год



Гурт «МЕРАДА»

***— Сціў, калі вы бачыце фатаграфію 1986 года, дзе вы з гуртом «БОНДА» на фоне Трокскага замка, якія ўспаміны прыходзяць на розум, што з таго часу вы пранеслі праз жыццё?***

— Перш за ўсё, гэта фота з нашай маладосці: мы ўсе тады былі поўныя энергіі і творчых амбіцый. Мы тады былі на першым у Савецкім Саюзе міжнародным фестывалі рок-музыкі «Літуаніка». Тады ў Вільню з’ехаліся ўсё рок-зоркі: «Акварыум», «Брава» (яшчэ з Жаннай Агузаравай), першы склад «Арыі», гурт «Магнэтык Бэнд»...

Тады нашы хлопцы выступілі вельмі годна. «БОНДА» слухалася амаль як заходняя рок-каманда — у вялікай ступені, дзякуючы беларускай мове і якаснаму выкананню і гучанню. Дык вось, першае, што я вынес ад працы з гэтым гуртом — скрупулёзны падыход да гуку і выбару інструментаў. У тыя часы музыканты аддавалі за гітару суму роўную 2–3-м гадавым заробкам! Іх галоўны прынцып быў: музыка — гэта гук, а гук — добры інструмент. Наступнае — гэта тое, што музыка павінна мець прыгожую гармонію, запамінальную мелодыю і тэкст. Прайшло ўжо больш за 25 гадоў, як «БОНДЫ» няма, а я да гэтага часу магу на памяць заспяваць амаль усе іх песні. Што цікава, калі я пісаў артыкул пра гурт, то ў Вікіпедыі, у інфармацыі аб удзельніках фестывалю «Літуаніка», «БОНДА» нават не згадвалася. Прыйшлося самому ўносіць туды змены. Гэтак жа, і сёння, ні ў інтэрнэт-выданнях, ні ў прэсе імя гэтага калектыву, чамусьці, не ўбачыш.

***— Ці ёсць магчымасць вярнуць гэтае імя ў аналы беларускага року?***

— На сённяшні дзень наша музыка — як від мастацтва і падыход да творчасці — перажывае крызіс. Яна ператварылася або ў палітыку, або ў камерцыю. Таму «БОНДА», як ужо неіснуючы калектыў, нецікавы. Гурт не можа быць выкарыстаны ў чыіхсьці «шкурных» інтарэсах.

Я лічу «БОНДУ», як у музычным плане, і так і ў плане культурнай спадчыны, такой жа значнай з’явай, як і «Песняры». Адзінае, што ў «БОНДЫ» тады не было «песняроўскіх» магчымасцяў запісу. Усе нашы альбомы былі запісаныя або на бытавы магнітафон, або на паўпрафесійную касетную портастудыю. Галоўны недахоп такіх запісаў — на іх гучаць не жывыя барабаны, а папулярная ў тыя гады «драм-машына». Я працую ў добрай студыі, і ведаю многіх таленавітых барабаншчыкаў. І сёння можна было б запісаць і накласці барабаны ўжывую, перазвесці ўвесь матэрыял на прафесійнай апаратуры, зрабіўшы гучанне больш якасным і сучасным. Для гэтага патрэбна не так шмат сродкаў: каля 5 тысяч долараў у эквіваленце.

***— Вы пабачылі шмат краін, пазнаёміліся са шмат якімі музычнымі плынямі. Калі вы найбольш востра адчулі прагу да беларускага слова, да беларускага меладычнага генатыпу? І як гэта рэалізуецца цяпер, у гурце «МЕРАДА»?***

— Правеўшы 17 гадоў за мяжой, я заставаўся беларусам, чалавекам, які нарадзіўся і вырас у дадзенай геаграфічнай прасторы. У сучаснай музыцы (песнях) ідэнтыфікацыяй гэтай прасторы з’яўляецца мова. Таму дзе б я ні знаходзіўся, роднымі для мяне заўсёды заставаліся песні «Песняроў», «БОНДЫ» і ранняга «Уліса». Памятаю, як мы часта спрачаліся пра блюз. Музыкі гурта стала ўзгадвалі пра нібыта яго моцны ўплыў на іх музыку. Дарэчы, да гэтага часу ў нас многія ведаюць і слухаюць блюз, у асноўным, толькі па запісах і па роліках на YouTube.

Калі я жыў у ЗША, то некаторы час працаваў дальнабойшчыкам і аб’ездзіў усе штаты, пабываў у сотнях бараў і клубаў, пераслухаўшы жыўцом сотні выканаўцаў. Сярод якіх былі легендарныя: Бі Бі Кінг, Бадзі Гай, Лоні Брук, Руці Фостэр. Тады я быў вельмі рады нарэшце трапіць у сапраўдную блюзавую атмасферу, пра якую яшчэ з часоў «БОНДЫ» было столькі размоў. Але, трапляючы на канцэрт чарговага блюзмэна, я ўвесь час лавіў сябе на адчуванні нейкага ўнутранага дыскамфорту. А прыходзіў у больш ці менш гарманічны стан, калі праслухоўваў музыку ў стылі кантры. Блюз досыць прасталінейны (не значыць дрэнны!) гарманічна і меладычна. А ў славянскіх народаў, усё ж, усё будуецца на багацці гармоніі і прыгажосці мелодыі.

***— З запісаў, якія пастаянна гучаць па беларускім радыё, слухачы ведаюць, што «МЕРАДА» — гэта не толькі Сціў Крамер, але і Ганна Крамер. Як ёй удаецца так арганічна спалучаць розныя музычныя стылі ў вашых кампазіцыях: фолк, рок, блюз, соўл?***

— Калі я пазнаёміўся з Ганнай, то яна, маючы дзве вакальныя адукацыі, займалася педагагічнай і арганізатарскай дзейнасцю. А ў дзіцячых установах, на жаль, не да музычных эксперыментаў. Мая ж музыка створана ў вельмі разнапланавых стылістыках, з досыць моцным уплывам блюзу, кантры і лацінскіх рытмаў. Да сустрэчы з Ганнай у маім гурце было пяць вакалістак, але іх спевы былі не такімі, якімі іх чуў я. Тое ж самае напачатку было і з Ганнай.

Але ж яна — дзяўчына ўпартая, вырашыла высветліць да канца, што не так у яе выкананні. Нам прыйшлося праслухаць і разабраць горы музычнага матэрыялу, пачынаючы ад вытокаў блюзу, фанка, соўл, лаціны, да амерыканскага року, фольку, кантры. Так праз тры гады мы прыйшлі да агульнага разумення, што капіяваць спевы — не мае сэнсу. Ды і ці трэба гэта?

Увогуле, мы з Ганнай пасля трохгадовага пагружэння ў вытокі, прыйшлі да высновы, што нам трэба развіваць свой музычны напрамак на аснове кантры-музыкі. Але «развіваць», арыентуючыся на ўжо нешта створанае. Напрыклад, у Амерыцы вельмі моцныя традыцыі: кантры музыцы ўжо больш за 150 гадоў, блюзу афіцыйна — каля ста. І амерыканцы шануюць свае традыцыі і пастаянна развіваюць і ўдасканальваюць гэтыя і іншыя музычныя напрамкі. Нашы суседзі-палякі маюць з дзясятак гуртоў, якімі нацыя можа ганарыцца. Яны заклалі падмурак і традыцыі сучаснай польскай музыкі. У нас, на жаль, традыцыі ёсць, але не развіваюцца, а, як на прыкладзе з «БОНДАЙ», — забываюцца.

***— У вас шмат гітар розных канструкцый і вытворцаў, арган «Хэманд», губныя гармонікі і шмат яшчэ чаго. Гэта імкненне калекцыянера ці ўсё ж спадчына «БОНДЫ», музыканты якой імкнуліся да дасканаласці ў музыцы і гучанні?***

— Я заўсёды марыў пра шмат розных інструментаў. Ды і хто з сапраўдных музыкантаў пра гэта не марыць!? Бо гэта дае магчымасць надаць песням разнастайныя адценні, непаўторны каларыт і магію. Збіраў я іх менавіта з пункту гледжання выкарыстання класічных гукаў, а не як калекцыянер. Але мяне здзівіла тое, што, калі я вярнуўся на Радзіму, амаль ніхто з мясцовых музыкантаў не праявіў аніякай цікавасці да маёй калекцыі! Нават тыя, хто тут называе сябе блюзмэнамі. Хоць у мяне, на самай справе, ёсць легендарныя гітары і ўзмацняльнікі, на якіх у свой час была сыграна ўся класіка кантры і блюзу. Адзін з нямногіх, каму заўсёды цікава арыгінальнае гучанне — гэта былы вакаліст «БОНДЫ» Ігар Варашкевіч. І, вядома ж, у «МЕРАДЗЕ» мы заўсёды выкарыстоўваем «Хэманд», мае вінтажныя гітары і ўзмацняльнікі, бо імкнёмся захаваць і развіваць далей такія крохкія традыцыі сучаснай беларускай музыкі.

***— Думаю, што ваш гурт чакае пераўтварэнне ў пастаянна канцэртуючы калектыў. Такая логіка падзей на рок-сцэне: спачатку ідзе запіс і выданне сольнага альбома, а пасля — прэзентацыя яго «ўжывую» перад слухачамі.***

— Мы былі б рады ператварыцца ў пастаянна канцэртуючы калектыў, але, як я ўжо казаў, музыка ў нас ператварылася ў палітыку, дзе галоўную ролю займаюць нейкія пасіянарныя панкі, прычым якія спяваюць, у асноўным, на рускай мове. З іншага боку — камерцыялізацыя. Як можна бачыць па тэлевізійных музычных праграмах, нехта з зайздросным упартасцю раскручвае «бітвы» кавер-бэндаў. Усе музыкі, якія гралі са мной, з цягам часу пераміашчаліся менавіта туды, таму што гэта адзінае месца, дзе музыкант можа зарабіць хоць нейкія грошы.

Афіцыйная эстрада — гэта наогул «міжсабойчык» сярод салодкай папсы. Яшчэ такі нюанс: сёння за запіс песні мы плацім больш чым 400 долараў. У ратацыю яе бяруць толькі дзве-тры дзяржаўныя радыёстанцыі, для ўсіх астатніх мы — нефармат. І за паўгода нам з Ганнай прыходзіць 150 тысяч беларускіх рублёў аўтарскіх адлічэнняў. Дык пра працяг якіх традыцый можа ісці гаворка?! Усё, што мы з Ганнай робім сёння, трымаецца толькі на нашым энтузіязме, на вялікай любові да музыкі і сваёй краіны.

Мы проста верым, што аднойчы прыйдзе дзень, калі людзі прачнуцца і ўспомняць, што музыка з’яўляецца часткай мастацтва, а мастацтва — гэта эстэтыка! Што музыка існуе не толькі для дасягнення нечых палітычных мэтаў, прымітывізацыі свядомасці, карпаратыўнага суправаджэння танцаў у рэстарацыі. Што музыка — гэта перш за ўсё наша духоўная і культурная спадчына, якую мы абавязаныя развіць і перадаць наступным пакаленням. Дарэчы, наш дэбютны альбом і ўздыме гэтую тэму і будзе называцца «Проста вер».

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.

Галоўны рэдактар
**Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81
novychas@gmail.com; novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 1256

Падпісана да друку 19.09.2014. 8.00.
Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.